Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 29 (4829) 24 ліпеня 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з вядомым французскім акцёрам і рэстаратарам Жэрарам Дэпардзьё. Падчас гутаркі былі закрануты магчымыя перспектыўныя праекты супрацоўніцтва Беларусі і Францыі ў галіне культуры і мастацтва. Жэрар Дэпардзьё прывёз у нашу краіну прадзюсера будучага фільма пад рабочай назвай «Нармандыя-Нёман». Праект прысвечаны 70-годдзю Перамогі. Працаваць над ім будуць Францыя, Расія і Беларусь.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Васілія Ліванава з 80-годдзем. «У Беларусі ведаюць і цэняць Вашу шматгадовую плённую працу ў кіно, што ўзбагаціла палітры многіх жанраў цудоўнымі непаўторнымі характарамі, якія запамінаюцца не толькі дарослым, але і, што заўсёды асабліва прыемна для акцёра, дзецям», — адзначана ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Давіда Тухманава з 75-годдзем. «Ваш яркі талент і творчая смеласць дазваляюць вам працаваць у самых розных музычных жанрах. Вашы песні займаюць дастойнае месца ў рэпертуары прызнаных мэтраў эстрады і маладых выканаўцаў, карыстаюцца шчырай любоўю слухачоў розных пакаленняў і розных краін. Яны добра вядомыя і на беларускай зямлі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 70-годдзем народнага артыста Расійскай Федэрацыі Аляксея Рыбнікава, які за шматгадовую творчую дзейнасць стварыў мноства выдатных работ — ад класічных камерных і сімфанічных твораў да неверагодна складаных партытур да рок-опер. «У Беларусі і прафесійныя музыканты, і проста аматары добрай музыкі ведаюць і высока цэняць Вашу творчасць», — падкрэслена ў віншаванні.

✔ Мемуары Міхала Клеафаса Агінскага на французскай і беларускай мовах прадставяць у музеі-сядзібе кампазітара ў Залессі (Смаргонскі раён) 25 верасня. Цяпер тут праводзіцца праца па стварэнні музейнай экспазіцыі, яе адкрыццё запланавана на 25 верасня, калі ў свеце будуць адзначаць 250-годдзе з дня нараджэння былога ўладальніка сядзібы, сусветна вядомага кампазітара, палітычнага дзеяча і дыпламата Міхала Клеафаса Агінскага.

✔ Міжнародны маладзёжны лагер «Бе-La-Русь — 2015» разгарнуўся каля Кургана Дружбы ў Верхнядзвінскім раёне. Навінкай гэтага года, якую прапанавалі латвійскія арганізатары, сталі творчыя майстэрні.

ISSN 0024-4686



# Берагі ў абдымках хваляў



*Выстаўка заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Івана Сталярова праходзіць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя, якая атрымала назву «Настаўнік і вучні», змяшчае больш як 20 акварэльных карцін мастака і 24 творы яго выхаванцаў.*

Чытайце на стар. 16 ▶

## *Брэст — культурная сталіца Беларусі-2015*

# Іспанскі падарунак



*«Святы Георгій, які перамагае змея».*

**Мастачка Хасефа Меса Гарсія перадала Музею гісторыі горада Брэста 40 сваіх карцін.**

Людзям, якія ведаюць і разумеюць праваслаўную культуру, адрасавала свой падарунак 90-гадовая іспанка. Калекцыю некананічных ікон, напісаных у старажытнай тэхніцы, мастачка перадала ў знак сяброўства з Пасольствам Беларусі ў Францыі і Іспаніі. Работы маці прывёз у Брэст Альфонса Хурада Меса, які ў хуткім часе пачне выконваць абавязкі Ганаровага консула Беларусі ў горадзе Алікантэ іспанскай аўтаноміі Валенсія.

«Сімвалічна, што менавіта ў сёлетняй культурнай сталіцы Беларусі адбываецца гэта знакавая падзея, якая, спадзяюся, зробіць гарады Брэст і Алікантэ бліжэй, а таксама паспрыяе ўмацаванню сувязей паміж нашымі краінамі», — адзначыў падчас урачыстай цырымоніі, якая адбылася ў абласным грамадска-культурным цэнтры, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі, Іспаніі і Партугаліі Павел Латушка.

Выявы ў стылі праваслаўнага іканапісу, створаныя іспанкай-каталічкай, — красамоўны аргумент слушнасці такога спадзявання. На палотнах сіньёры Хасефы не адчуваецца ніякай дысгармоніі, калі праваслаўныя вобразы святых, Багародзіцы, Хрыста набываюць непаўторны «міжземнаморскі» каларыт.

— Зачароўвае прысутнасць нацыянальнага духу ў карцінах, — падзялілася ўражаннямі дырэктар Музея гісторыі горада Святлана Тамчук. — Багародзіца ў каляровай гаме народных строяў — гэта асабістае бачанне мастачкі, праяўленне яе іспанскай сутнасці.

Чытайце на стар. 2 ▶

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Што скажуць гродзенцы?

**Дзень беларускага пісьменства сёлета пройдзе ў г. Шчучыне Гродзенскай вобласці. Як рыхтуюцца да ўрачыстай падзеі літаратары Гродзеншчыны, чытачам «ЛіМа» распавяла старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Людміла Кебіч.**

— Гэтым разам Гродзенская вобласць прымае свята беларускага пісьменства на Шчучынскай зямлі — радзіме слыннай беларускай пісьменніцы, асветніцы, публіцысткі і змагаркі Алаізы Пашкевіч (Цёткі). На Шчучыншчыне нарадзіліся і жылі і іншыя вядомыя беларускія асобы. Родам адтуль сённяшнія сябры Гродзенскага абласнога Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Пяшко, Алена Руцкая, Ганна Скаржынская-Савіцкая, Віктар Куц, Уладзімір Ягорычаў. Доўгі час жыла ў Шчучыне і працавала ў раённай газеце Марыя Шаўчонак.

Падрыхтоўка да Дня беларускага пісьменства пачалася з праекта «Шчучынскія літаратары», прапанаванага нашым аддзяленнем раённай газеце «Дзянніца». У межах гэтага праекта яшчэ ў лютым пачалася публікацыя цыкла нарысаў і інтэрв'ю з пісьменнікамі-ўраджэнцамі краю.

З сёлетняга студзеня на абласным тэлебачанні Гродна амаль штодня гучаць вершы гродзенскіх паэтаў у выглядзе невялікіх замалёвак: на фоне прыроды і роднага горада іх чытаюць маладыя супрацоўнікі тэлерадыёкампаніі, якая таксама распачала серыю перадач «ЛітАратар» — пра пісьменнікаў Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ. Ужо знята і паказана 15 дакументальных фільмаў. І здымкі працягваюцца.

У сакавіку былі падведзены вынікі Другога абласнога літаратурнага конкурсу рукапісаў імя Цёткі, куды было пададзена 28 работ у розных жанрах, нават кінасцэнарый, але паводле ўмоў конкурсу вызначаны толькі тры пераможцы. Імі сталі Дзмітрый Радзівончык у намінацыі «Паэзія», Уладзімір Саласюк у намінацыі «Проза», Іван Пяшко ў намінацыі «Дзіцячая літаратура». За прэміяльныя сродкі, выдатканыя Гродзенскім аблвыканкамам, пераможцы выдаюць кнігі, прэзентацыя якіх плануецца ў Шчучыне падчас Дня беларускага пісьменства. На свяце мяркуецца таксама прэзентаваць першыя кнігі маладых паэтэс Наталлі Цвірко — настаўніцы са Шчучынскага раёна — і студэнтак Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Вікторыі Смолка і Аліны Паўлоўскай. Кнігі рыхтуюцца да выдання ў серыі «Бібліятэка часопіса "Маладосць"». І, безумоўна, галоўнымі гасцямі, дакладней, гаспадарамі нашага літаратурнага свята, стануць паэты — прадстаўнікі ўсіх абласных аддзяленняў Саюза пісьменнікаў.

Некаторыя літаратары ў гэты год прысвячаюць свае новыя творы менавіта Шчучынскай зямлі, з цікавасцю паглыбляюцца ў гісторыю раёна, знаёмых мясцін. Так, дзіцячая пісьменніца Ганна Скаржынская-Савіцкая напісала кнігу для дзяцей і падлеткаў «Кветка малой радзімы». З любоўю распавядае пісьменніца пра родную вёску, музей Цёткі, Навадворскі касцёл, помнік невядомаму салдату ў в. Грамкі, знакамітага спевака з в. Васілішкі Чэслава Немэна і г. д. Упэўнена, што і дарослыя будуць чытаць гэтыя апавяданні з асалодай.

Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Шчучыне пройдуць і мерапрыемствы, сплanаваныя сумесна з абласной навуковай бібліятэкай імя Я. Карскага: тэматычныя выстаўкі кніг, літаратурныя відэапрэзентацыі ды інш. Цікаваю мусіць быць выстаўка самаробных кніг, першыя экзэмпляры якіх ужо паступілі ў бібліятэку. Дарэчы, у гэтым творчым праекце таксама бяруць удзел гродзенскія пісьменнікі.

Зразумела, мы імкнёмся сустрэць гасцей належным чынам, усебакова і цікава паказаць ім нашу літаратурную Гродзеншчыну. Ужо з пачатку года жывём гэтай падзеяй, чакаем новых сустрэч і ўражанняў, якія абавязкова натхняць пісьменнікаў на новыя творы.

**Яна ЯВІЧ**

# На хвалях Балтыкі

**Міжнародны фестываль фальклору «Балтыка» прайшоў у многіх гарадах, мястэчках і вёсачках Латвіі. Яго ўдзельнікамі і гасцямі сталі спевакі, танцоры, апавядальнікі, даследчыкі і аматары фальклору з Латвіі, Літвы, Эстоніі, Украіны, Польшчы, Партугаліі, Нарвегіі, Грузіі, Беларусі, Ірландыі і Расіі. Нашу краіну на гэтым маштабным фэсце прадставіў гурт «Талака» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.**



*«Талака» ў шэсці ўдзельнікаў «Балтыкі-2015».*

Фестываль «Балтыка» адлічвае сваю гісторыю з 1987 года, ён штогод праходзіць у Літве, Латвіі ці Эстоніі. Сёлета Латвія прымала фэст ужо дзясяты раз. «Балтыка» ўваходзіць у Міжнародны Савет Арганізацый Фальклорных Фестываляў і Традыцыйных Мастацтваў (CIOFF) і мае на мэце спрыянне захаванню традыцыйнай народнай культуры — песень, інструментальнай музыкі, танцаў, гульняў, апавяданняў, народнага мастацтва і рамёстваў. Сёлета тэмай фэсту стала «Спадчына», а сімвалам — дзявочая каса з уплеценай у яе стужкай з традыцыйным арнаментам. Таму невыпадкова ўвага ўдзельнікаў і гасцей была скіраваная на аўтэнтычныя формы фальклору, іх захаванне і папулярызацыю ў сучасным свеце.

— Традыцыйная культура — важны падмурак, на якім грунтуецца сучаснасць і будучыня нашай краіны, — зазначыў у прывітальным слове ўдзельнікам фестывалю Прэзідэнт Рэспублікі Латвія Раймонд Веёніс.

Апрануты ў нацыянальны строй, спадар Прэзідэнт прысутнічаў на гала-канцэрце фестывалю, што прайшоў у даліне Анкупані непадалёк ад цэнтра Латгаліі Рэзэкне.

Праграма «Балтыкі-2015» сапраўды ўражвала маштабнасцю і разнастайнасцю. Выступленні больш як ста калектываў з розных краін у гарадах і вёсках, вялікі гала-канцэрт, майстар-класы па танцах і народнай музыцы, вечарынкі, урачыстае закрыццё фэсту з шэсцем удзельнікаў, традыцыйным спальваннем стужак на вогнішчы (з якімі павінны былі згарэць кепскія думкі) і кіданнем вянкоў у раку.

Не засталіся без увагі і выступленні беларускай «Талакі». Студэнтаў і выпускнікоў БДУКіМ гасцінна віталі на канцэрце, прысвечаным традыцыйнай кухні, у маляўнічым мястэчку Айскраўкле на беразе Даўгавы і ў маленькай вёсачцы Грыцаны непадалёк ад Рэзэкне. Беларусы спявалі і танцавалі на гала-канцэрце ў даліне Анкупані і падчас урачыстага закрыцця фэсту ў Рэзэкне. Падчас вялікага майстар-класа для кіраўнікоў фальклорных калектываў, што прайшоў у Рэзэкне, загадчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ Вячаслаў Калацэй распавёў пра адметнасці арганізацыі працэсу навучання студэнтаў народным спевам і танцам, адраджэнне дударскай традыцыі ў Беларусі. А ўдзельнікі «Талакі» навучылі прысутных танчыць «Каваля», «Падыспань», «Сямёнаўну», «Польку» і «Картузэ».

Адметна, што падчас закрыцця фестывалю адбылася сімвалічная перадача сцяга «Балтыкі» Эстоніі, якая будзе прымаць фэст у наступным годзе.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**
*Айскраўкле — Рэзэкне — Мінск*

*Акцыі*

# Творчыя вандроўкі

Рэспубліканская акцыя «Лета з добрай кнігай» працягвае сваё падарожжа па краіне. Колькі цудоўных сустрэч з дзіцячымі пісьменнікамі і паэтамі адбылося ў летніках, на прышкольных аздараўленчых пляцоўках, бібліятэках! Нехта з літаратараў ужо змог падзяліцца радасцю ад такіх свят творчасці, нехта яшчэ рыхтуе матэрыялы.

А пачалася акцыя ў Мінскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі з запрашэння кіраўніцтва Валожынскай гарадской бібліятэкі і кіраўніка літаратурна-музычнага аб'яднання «Рунь» Валянціны Гіруць-Русакевіч на вялікую сустрэчу з дзецьмі горада Валожына, на якую завіталі Генадзь Аўласенка, Святлана Быкава і аўтар гэтых радкоў.

А потым адбылася сустрэча ў дзіцячай кніжніцы, дзе бліжэй можна было пазнаёміцца з пісьменнікамі і іх творчасцю. Шчаслівыя атрымалі ў падарунак кнігі з аўтографамі. «Лета з добрай кнігай» працягваецца. Наперадзе — новыя сустрэчы.

**Ірына КАРНАУХАВА,**
**намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Іспанскі падарунак

Асаблівую энергетыку карцін паспелі адчуць супрацоўнікі музея, дзе захоўваюцца 40 палотнаў. Пра тое, што ў кожную сваю работу Хасефа Меса Гарсія ўкладае часцінку душы, гаварыў і сын іспанскай мастачкі. «Багародзіца з дзіцём», «Святы Максім Грэк», «Апостал Павел», «Сцэны з Евангелля» звяртаюцца да адчування прыгожага кожнага сузіральніка.

Як распавёў Альфонса Хурада Меса, нягледзячы на шаноўны ўзрост, маці працягвае займацца жывапісам. Малява ць жанчына пачала ў 60-гадовым узросце, калі адкрыла для сябе захапляльны свет іканапісу падчас наведвання праваслаўных храмаў Расіі, Беларусі, Грэцыі і Балгарыі. Класічная тэхніка тэмперы і залачэння, да якой яна звяртаецца, перадае асаблівую сакральную атмасферу літургічнай узнёсласці, уласцівую іконам. А арыгінальныя элементы аўтарскага стылю — работа з тканінай, цісненне серабром і волавам — выглядаюць вельмі арганічна на халсце і скуры, з якімі працуе мастачка.

Карціны сіньёры Хасефы ўпершыню прадстаўлены публіцы ў 1983 годзе ў Аліканце, пазней яны экспанаваліся ў Лондане і Мадрыдзе. Цяпер іх убачаць і беларусы: у жніўні, акурат на святкаванне Дня горада, адбудзецца адкрыццё выстаўкі, якую можна наведаць цягам месяца ў Музеі гісторыі Брэста.

**Алёна САЦУТА**

# Блакітная калыска песні

**Каханне з першага позірку — Нарачанскі край. Краса яго — азёры. Ці не тут нараджаецца песня? На беразе маляўнічага возера Мястра ў гарадзе Мядзеле прайшоў Рэспубліканскі фестываль харавога мастацтва «Пеўчае поле».**



*Фота Паўла Цыбіна.*

*Віншаванні з перамогай прымае кіраўнік народнага вакальнага ансамбля «Берагіня» Тамара Барахава.*

Больш як шэсць дзесяцігоддзяў ладзіцца непаўторнае свята. А пачыналася ўсё з мерапрыемстваў каля манумента героям Вялікай Айчыннай вайны — свята песні і працы, воінскай доблесці і славы, якое было прымеркавана да Дня вызвалення Мядзела ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Збіралася шмат людзей. Старажылы расказваюць, што дабіраліся на падводах, на веласіпедах, пешшу — каб далучыцца да песні.

— Харавое мастацтва заўсёды было для Беларусі традыцыйным, карысталася павагай, цікавасцю, — адзначыў намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Тадэуш Стружэцкі. — Хацелася б, каб так было і надалей. На жаль, час аказвае значны ўплыў: утрымліваць вялікія паўнацэнныя харавыя калектывы сёння складана. Таму неабходна падтрымліваць харавы жанр у розных формах, у тым ліку і фестывалямі.

Сёлета на «Пеўчае поле» прыехалі 25 калектываў з усёй рэспублікі. У конкурснай праграме былі прадстаўлены два напрамкі: выкананне ў акадэмічнай манеры і народнай. «Азёры вякамі глядзяць з захапленнем на сонца і зоры…» — кранулі тэматычнай кампазіцыяй народны вакальны ансамбль «Натхненне» Мядзельскай ДМШ. Шчодра рассыпаў залацінкі песні народны хор «Крыніца» Палаца культуры металургаў унітарнага прадпрыемства «Металургсацсэрвіс» са Жлобіна. Адмысловай манерай выканання ўразіў народны ансамбль народнай песні «Кросны» ўнітарнага прадпрыемства «Элект» грамадскага аб'яднання «БелТІЗ» з Віцебска. У іх спевах — шчырасць душы. У хора Морацкага СДК Клецкага раёна шмат прыхільнікаў не толькі ў Беларусі, але і за межамі. Пабольшала іх падчас конкурсу.

Заварожваў мелодыяй народны ансамбль народнай песні з 30-гадовым творчым стажам «Пярэзвы» Бабруйскага раённага цэнтра культуры. Галасы — бы чароўныя званы. У энергічных, напоўненых дабрынёй і радасцю гуках — моц, трываласць. Адцягнулі ад будзённасці, развеялі смутак вакалісты народнай песні і танца «Крыніцы» Ашмянскага РЦК, прадставіўшы патрыятычную песню «Беларусь мая пяе». Вылучыўся калектыў і прыгожымі касцюмамі. Увогуле, за строі перамогу трэба даваць кожнаму.

Чары песні нікога не пакінулі абыякавым. У тым ліку журы. Узначальваў кагорту музыказнаўцаў мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. І. Цітовіча, народны артыст Беларусі, прафесар Міхась Дрынеўскі.

Сярод ансамбляў з народнай манерай выканання дыплом III ступені атрымалі народны хор Морацкага СДК, ансамбль «Натхненне» Мядзельскай ДШМ, народны хор «Нёман» Старасвержанскага цэнтра культуры Стаўбцоўскага раёна; з акадэмічнай манерай — народны мужчынскі хор Мастоўскага РДК, народны акадэмічны хор Клічаўскага дома культуры, народны вакальны гурт «Гармонія» Камянецкага ГДК.

Дыпломамі II ступені адзначаны народны хор «Крыніца» Палаца культуры металургаў г. Жлобіна, ансамбль «Пярэзвы» Бабруйскага раённага цэнтра культуры, народная харавая капэла «Светач» Старабарысаўскага СДК Барысаўскага раёна, народны вакальны ансамбль «Альянс» Касцюковіцкай ДШМ Магілёўскай вобласці, хор народнай песні Палаца культуры г. Бабруйска, ансамбль «Забудова» Чысцінскага СДК.

Пераможцамі — уладальнікамі дыпломаў I ступені — сталі народны харавы калектыў «Мілавіца» Прылуцкага Цэнтра народнай творчасці Мінскага раёна, народны камерны хор «Праабражэнне» Барысаўскай ДМШМ і прыходу храма Раства Хрыстова г. Барысава, народны вакальны ансамбль «Элегія» Дзяржынскай ДМШ, народны вакальны ансамбль «Берагіня» Стаўбцоўскай ДМШ.

Кіраўнік «Берагіні» Тамара Барахава музыку для кампазіцый піша сама. «У любым творчым калектыве павінен быць лідар, таленавіты музыка, мастак, які павядзе за сабой, — упэўнена Тамара Барахава. — Ёсць лідар — будзе ў калектыву поспех. А астатняе прыкладаецца штодзённымі намаганнямі, рэпетыцыямі, цярпеннем».

Пераможцы выступілі на заключным гала-канцэрце. Апошнім прагучаў гімн «Наш край Нарачанскі». Амфітэатр на беразе Мястры — нібы карабель. Паплыла песня ў шырокі свет.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Вакол свету са «Скарбніцай»

**Больш як 20 майстэрняў Свята-Елісавецінскага манастыра (Мінск) прадстаўлялі нядаўна царкоўныя рэчы, кнігі для дзяцей і дарослых, кераміку, сувеніры з рознакаляровага шкла на выстаўцы-кірмашы ў Касцюковічах, дзе ладзіўся фестываль праваслаўнай культуры «Скарбніца». Для дзяцей — лялечны тэатр «Батлейка».**

«Фестываль — вялікі праваслаўны праект. У такім фармаце ён праходзіць ва ўсіх гарадах нашай краіны, адзначыла матушка Ганна. — З падобнай праграмай («Адзіная вера — адзіная Русь») мы выязджаем і ў Расію. Змест, сэнс і місія — тыя ж. Тэатр «Батлейка» з'явіўся паступова. Гэта пастаянная і неад'емная частка экспазіцыі. Мы стараемся зрабіць спектаклі, якія вонкава здаюцца дзіцячымі, гарэзнымі, у духу праваслаўя, з глыбокім зместам і асэнсаваннем каштоўнасцей».

Карыстаюцца попытам у бацькоў дзіцячыя кнігі беларускіх аўтараў. Сярод іх — Таццяна Дашкевіч, якая яшчэ і песні піша. Хлопчыкаў і дзяўчынак старэйшага ўзросту вабіць творчасць Барыса Ганагі. «Мы прапануем дзіцячы малітоўнік, які ахвотна набываюць бацькі, ацаніўшы важнасць малітвы і для дзіцяці, і для сябе, — заўважае матушка Ганна. — Ёсць і маляўнічыя, падарункавыя выданні, напрыклад, казкі праваслаўных пісьменнікаў розных народаў. І кнігі нашага манастыра. Стараемся прадстаўляць сваю прадукцыю ў адметным стылі, каб пазнавалі Елісавецінскае выдавецтва».

**Анастасія МЕЛЕХАВА**

# Франтавое мінулае часопіса

До 70-годдзя з дня выхаду першага нумара агітплаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» — славутага папярэдніка часопіса «Вожык» — у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адкрылася выстаўка «Раздавім фашысцкую гадзіну»: ад агітплаката да часопіса сатыры і гумару «Вожык». У межах праекта «У пошуках страчанага» калекцыянерам і гісторыкам Уладзімірам Ліхадзедавым былі прадстаўлены 20 арыгінальных выпускаў агітплаката.

Пісьменнікі-«вожыкаўцы» Мікола Чарняўскі, Лёля Багдановіч і Ніна Галіноўская ўзгадалі не толькі франтавое мінулае «Вожыка», але і сваё маленства, выступілі з лірычнымі і гумарыстычнымі вершамі.

**Ганна КІСЛУШЧАНКА**

# Матрыца Максіма Багдановіча

**У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча праходзіць выстаўка сучаснага мастацтва «Усё, што цвёрдае, растае ў паветры».**

Тэматыка выстаўкі цесна звязана з тэматыкай творчасці паэта. Матыў адзіноты і рамантычных адносін з жанчынай, сімвалічнасці прыроды і гарадской прасторы, любові да Радзімы і інтэрнацыяналізму. Адметна, што ўсе пералічаныя тэмы будуць прэзентаваны і ў залах экспазіцыі пасля іх рэканструкцыі.

Удзел у выстаўцы ўзялі не толькі беларускія мастакі, але і творцы з Расіі і Румыніі, што надае імпрэзе міжнародны статус.

— Праект атрымаўся менавіта з кантэксту самой музейнай прасторы, і праца, якая працягвалася даволі доўга, абумоўлена тым, што сама метафара, сама вобразнасць Максіма Багдановіча дала шмат тэм для роздуму, — прызналіся арганізатары выстаўкі.

З аднаго боку, гэта куратарскі праект, у яго важная частка дыскурсіўная. На выстаўцы прадстаўлена шмат тэкстаў, як і ў самых працах мастакоў, так і ў тэкстах прац, якія пэўным чынам кантэкстуалізуюцца.

Уведзеная аўтарамі матрыца дапамагае зразумець мэту мастака. Выкарыстоўваюцца аўтабіяграфія, паэзія, рамантычная ўтопія, нацыянальнае і інш. Кожная праца спалучае некалькі кампанентаў матрыцы.

Шэраг фотаздымкаў і відэаінсталяцый вылучаюцца сваёй адметнасцю і непадобнасцю да іншых. У жанры меладрамы прадстаўлены відэаперфоманс Бюро меладраматычных даследаванняў (Румынія) «Каханне-золата» — шоу касмічнай кулінарыі. Гэта супрацьстаянне матэрыяльнага (золата) і ідэальнага (каханне).

Выстаўлены таксама працы Паўліны Вітушчанка, Жанны Гладко, Аляксея Навумчыка, Тамары Сакаловай, Антона Сарокіна, Вольгі Сасноўскай, Ігара Саўчанкі, Антаніны Слабодчыкавай, Аляксея Талстова, Сяргея Шабохіна, «Што рабіць?» («Что делать?»), Юры Шуста.

Музычна аздобіў адкрыццё выстаўкі гурт AlgmacReduxx. Музыка, якая не выконваецца на музычных інструментах, падкрэсліла незвычайны характар імпрэзы.

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

# Каханне ў мастацтве

На працягу жыцця людзі спрабуюць зразумець, што такое каханне, разабрацца, чаго ў ім больш: фізічнага або духоўнага. Менавіта гэтай тэматыцы і была прысвечана выстаўка «Прыгожыя і знакамітыя» ў Гасцёўні Уладзіслава Галубка.

Падрабязнасці з жыцця знакамітых асоб мінулага даўно ўжо не лічацца ўмяшальніцтвам у асабістую прастору. Гэта частка гісторыі, як, напрыклад, адносіны Напалеона і Жазэфіны Багарнэ.

Пікантнасць выстаўцы надаюць працы магілёўскага скульптара Андрэя Вараб'ёва, якія адлюстроўваюць сувязь двух бакоў кахання, іх узаемапранікненне.

Вытанчаным дадаткам да выстаўкі сталіся каштоўныя рэчы з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. Прадметы мужчынскага і жаночага адзення, сумкі, парасоны, хусткі… І ні грама пошласці. Ёсць і дастаткова спрэчныя экспанаты. Але ж дзеля эстэтыкі, мастацтва, харавства.

**Святлана КУРГАНАВА**

Яна МАЦЮШАВА



## Першаму сапраўднаму

*Нарэшце!*
*Я зірнула ў акно,*
*Падняўшы вочы ад яркага экрана*
*Майго камп'ютара, дзе ўсё адно.*
*Увесь інтэрнэт — вялізная загана.*
*Увага адцягнулася.*
*За шклом цямнела.*
*І вось прыйшла шалёнай прозай*
*Падманлівая мокрая зіма.*
*Яна паспела*
*Да каляндарнага афіцыёзу.*
*На вуліцу хутчэй!*
*Няхай да пар яшчэ гадзіны дзве.*
*А снег ідзе,*
*І набягае, і я ў абдымках сваіх мар*
*У край пайду, дзе не бываць бядзе.*

## ***

*Я б хацела ў сне пабачыць восень:*
*Дзьме халодны вецер, дрэвы гнуцца.*
*Мары, што глыбока дзесьці носім,*
*У сэрцы болем лёгкім адгукнуцца.*
*Я б хацела ў сне пабачыць восень.*
*Я тады маўкліваю была.*
*Вельмі часта мы у іншых просім —*
*Я бы іншым штосьці аддала.*
*За акном вясна пакліча смехам,*
*Але нешта не дае душы адкрыцца.*
*Чую восені раскацістае рэха.*
*Дык няхай жа восень мне прысніцца!*

## Мёртвай вёсцы

*Пустыя вокны —*
*там ні шкла, ні рамы.*
*Проста, як мінімалізм*
*жыцця.*
*Акіну вокам,*
*нястрымана заб'ецца*
*тое маленькае ў грудзях*
*да забыцця.*
*Святое адчуванне*
*ахоплівае і нясецца*
*ў палях.*
*Як быццам спачуваннем*
*напоўніцца нутро.*
*Тут — цішыня.*

## Чыгунка

*Калі я еду па чыгунцы, час спыняецца.*
*А восень — тая ж, што і год назад.*
*На свеце ўсё, маўляў, заўжды мяняецца…*
*Адказваю: але не ў цягніках!*

*І тыя ж вокны, шкло празрыстае,*
*І тыя ж дрэвы за вакном.*
*Душа адкрытая і чыстая*
*Чырвоным грэецца лістом.*

## Дзень без тваіх вуснаў

*Ён пачынаўся ў чаканні.*
*Быццам на вакзале:*
*ведаеш, што цягнік будзе дакладна.*
*Ранішнія хваляванні*
*наконт вечара праходзяць хутка*
*і незаўважна.*
*Адміністрацыйна-камандна*
*на працягу дня выконваю*
*розныя заданні.*
*Штосьці не атрымліваецца,*
*і ладна.*
*Я ўжо ўся ў чаканні.*
*Мара мая на яве,*
*сон па ходзе руху,*
*ты — мая асабістая здань,*
*якую я звычайна не слухаю…*
*Вечар будзе без тваіх вуснаў…*
*А значыць, і дзень.*
*Згублены ўвесь гэты дзень!*
*Рукі апушчаны,*
*Вочы апушчаны.*
*Горад схаваўся ў цень.*

Тамара МАЗУР



## Душа

*Пакрыўджаная душа —*
*гэта не заўсёды зламаны лёс.*
*Але вельмі часта — падвешанае*
*становішча,*
*мост паміж мінулым і сучасным,*
*па якім шоргае тапкамі*
*шэравокі прывід будучыні.*

## Нельга

*Нельга ўзважыць самаахвярнасць,*
*дарасці да Бога,*
*дакрануцца да вечнасці.*

*Бо насамрэч*
*няма вагі ў промняў святла,*
*вышыні — у прасторы,*
*ускрайку — у зямлі.*

## Скрыжаванне

*На скрыжаванне дарог*
*праліўся дождж,*
*нібы з касмічнага вядра*
*праз дзіркі ў хмарах.*

*І ў адначассе зрабілася моташна*
*пешаходам і кіроўцам*
*з-за надта мокрага святла*
*чырвонага светлафора.*

## Верабейчык

*— Хто ты такі? —*
*спытала ў хлопца*
*на сцяжынцы да лецішча.*
*А ён працягваў махаць рукамі*
*і ціха прамаўляць:*
*— Дай праскакаць верабейчыку.*

## Зязюля

*Зязюля кукавала…*
*І чым даўжэй,*
*тым болей саладжавым*
*здавалася «фью-фью».*

*Кукуй, зязюлька,*
*на ўсё жыццё.*
*Спявай, салоўка,*
*на шлюбны тэрмін.*

Зінаіда НАВАСАД



## Радзіма

*Ёсць край тут, на нашай планеце,*
*Дзе міру жадаюць усе,*
*Дзе кветкі ярчэйшыя ў свеце,*
*А зоркі мігцяць у расе.*

*І сонца праменьчыкі-косы*
*Ўплятае ў рамонкавы рай,*
*І поле шапоча калоссем —*
*Цудоўны валошкавы край!*

*Тут вабіць бярозка-сястрыца…*
*Тут першы мой крок і радня,*
*Тут маці вучыла маліцца*
*І ласкай туліла штодня.*

*Усё — быццам казка жывая,*
*Багацяў любых даражэй…*
*Зямліца радзімага краю,*
*Не знаю цябе прыгажэй!*

*Цябе апяваць не стамлюся,*
*Тут Бог лёс і шчасце мне даў,*
*Навек з дарагой Беларуссю*
*Душою і сэрцам звязаў.*

## Жытні каласочак

*Жытні каласочак у полі паспявае,*
*Хлебным ураджаем пахне за сялом,*
*Жаўранчак песняй неба праслаўляе,*
*Што дарує дождж, сонца і цяпло.*

*Працай карпатлівай людзі*
*ў родным краі*
*Зерняткам калоссем стаць дапамаглі,*
*Пышным караваем мы гасцей вітаем,*
*Кланяемся Богу нізка— да зямлі.*

*Каб паслаў здароўе, хлеб быў і да хлеба,*
*Каб павагу дзеці мелі да бацькоў,*
*Хай нідзе ад войнаў не цямнее неба,*
*Дай сяброў надзейных, шчасце і любоў.*

*Жытняе калоссе ў полі паспявае,*
*Васількі, рамонкі хораша цвітуць,*
*Беларусь, Радзіма наша дарагая,*
*Прыгажэй, красуйся! Міла жыць*
*нам тут.*

## Калі не ты…

*Калі лісток апошні кружыць,*
*Вясной, і летам, і зімой*
*Глядзі часцей у неба, дружа,*
*Туды наведвайся душой.*

*Грахі усюды людзі множаць,*
*Між намі й Богам д'ябал стаў.*
*Калі не ты, хто дапаможа*
*Таму падняцца, хто упаў?*

*Калі не мы, то хто, скажыце,*
*Раскажа тым, хто не спазнаў,*
*Што ёсць Тварэц, Гасподзь-Збавіцель*
*Ад зла, што дух нячысты даў?*

*Ў адзінай звязцы ўсе мы, людзі.*
*Сярод засілля цемнаты*
*Маліцца хто за мір наш будзе,*
*Калі не мы, не я, не ты?!*



Фота Ганны Бізюковай.

## Барыс БЕЛЯЖЭНКА



# Эзопаў статак

Доўгі час і з даўніх гадоў міжволі вяртаюся ў думках да загадкавай постаці і драматычнага лёсу старажытнага мудраца і гаротніка Эзопа. Богам наканавана было несці яму на сваёй спіне горб. Гэта настолькі сімвалічна для вобраза Эзопа! Невысокага росту, з выродлівай паставай, ён нёс у сваёй душы неверагодна вялікі цяжар чалавечых недахопаў. Востры розум, назіральнасць, геніяльная здольнасць параўноўваць і аналізаваць, творчы погляд на жыццё і прыроднае ўменне тварыць і цаніць мастацкае слова — усё гэта ў сукупнасці склала класічную фігуру байкапісца, які не толькі вынайшаў лаканічную літаратурную форму, але і ўзбагаціў сусветную літаратуру сюжэтамі, пэўна, на тысячы год наперад для соцень пакаленняў, паэтаў і мастакоў. А ўсе думкі вялікага, мудрага і гаротнага Эзопа нараджаліся каля статка кароў, коз і авечак, каля табуна коней, ля вісклівага, лычатага натоўпу свіней, каля звяроў і, канечне, каля людзей. І я ўявіў Эзопа-пастуха ды яго падапечных.

Раніца. Блакітнае неба. Сёння трэба пасвіць коз. Увесь статак выкаціўся на поле. Эзоп глядзіць на сваіх «падначаленых»: усе козы снедаюць роснай травой. Тры самцы адышлі ад статка і кінуліся адзін на аднаго.

Велізарны казёл кінуўся да гэтых траіх.

— Таіл! — крыкнуў Эзоп. — Супакойся!

Але Таіл усё рушыў на задзіраў. Чырвоныя вочы, нібыта наліліся крывёю. Таіл здзічэла калоў сапернікаў рагамі. З-пад капытоў ляцелі камяні, а рогі, здавалася, высякалі іскры…

Эзоп павольна падышоў да Таіла і адагнаў яго прэч. Але ў гэты час ажывіліся бараны.

Неадноўчы Эзоп казаў патрыцыю Аксімену, што не трэба пасвіць коз і авечак разам, бо ад запальчывага казла вучыцца дурноце гнеўны баран, а церпяць козы і авечкі. Аксімен згаджаўся з Эзопам: «Калі б не было казлоў і бараноў, то ты, Эзоп, не назіраў бы, як шал авалодвае жывой істотай і прыводзіць да боек».

Лютасць чалавечая Эзопу вядома. Не маючы рагоў, раз'юшаныя людзі хапаюць нажы, камяні і наносяць адзін аднаму небяспечныя раны. Адумацца і памірыцца могуць, хоць са спазненнем. Рагатыя істоты больш упартыя. Вось і зараз велізарны баран з закручанымі, нібыта абаранкі, рагамі, адлучыўся ад статка і, набіраючы хуткасць, накіраваўся да круглага валуна, падобнага да спячай авечкі.

Дадаючы сам сабе злосці, баран кінуўся біцца з валуном.

— Таўта! Ты звар'яцеў! — крыкнуў Эзоп. — Ты хочаш пабарукацца з валуном? Камень ёсць камень. Нічые рогі не могуць ажывіць каменнае цела.

Але Таўта біў рагамі ў каменны бок валуна. Эзоп спыніўся і задумаўся: ці не так заўзяты ваяр пачынае бойку, не ведаючы, што не пераможа? А ўсё роўна б'е рагамі каменную глыбу. Колькі консулаў і імператараў пагражалі іншым краінам, што знішчаць іх. О, як падобныя яны да здурнелага Таўты!

Эзоп зірнуў на сонца. Яно смяялася з дурняў Таіла і Таўта. І з неразумных людзей, якія пачынаюць войны.

Эзоп задумаўся: як гэта сонца ўмее адначасова свяціць, грэць зямлю і насміхацца з чалавечага глупства?! Зажмурыўся: сонцу лепш бачна з такой вышыні, сонца — найвялікшы пастух Сусвету, яму ўсё падуладна, бо яно — жыццядайнае. Але чаму такія недружалюбныя людзі?..

У гэты момант казлы і бараны сышліся ў бойцы. Ніхто не саступаў. «Ну канечне! — падумаў Эзоп. — Людзі часта бываюць падобныя да гэтых казлоў і бараноў. Як гэта дзіўна: людзі ўмеюць гаварыць — і не могуць дамовіцца пра мір. Што ўжо казаць пра бясслаўных жывёлін… Аднак ці зразумеюць гэта калі-небудзь людзі?

І тут данёсся крык. Хлопчыкі на аддаленым пагорку пачалі бойку. І што дзіўна: малыя казляняты і баранчыкі таксама кінуліся адзін на аднаго. Расчараваны Эзоп падумаў: «Не вырвацца з гэтага кола: людзі вучацца дурному ад жывёлін, а тыя — ад людзей».

# Леў і буйвал

Статак буйвалаў спакойна адпачываў у прахалодзе кустоўя. Але не надта далёка, у розных кутках саваны таіліся гіены, леапарды, гепарды, гіенавыя сабакі і галоўныя ворагі капытных — ільвы.

Апошнія таксама адпачывалі пасля бурнага выгнання з прайда састарэлага важака. Два маладыя львы, дасягнуўшы дарослага ўзросту, пакінулі свае сем'і і накіраваліся шукаць прайд, дзе быў ужо знямоглы, стары гаспадар ільвінага «гарэма». Вандруючы па саване, гэтыя двое нечакана наткнуліся на такога важака, накінуліся на яго. Стары агрызаўся, але маладыя спрытна запусцілі іклы ў яго цела, разрэзалі скуру і вырвалі з глыбокіх ран кавалкі мышц. Стары важак рэзка крутануўся і адскочыў ад сваіх ворагаў. Вялізнымі скачкамі пачаў аддаляцца ад маладых ільвоў. Напалоханы стары важак, страшна параненны, назаўсёды пакінуў свой прайд.

Праляцеўшы па саване амаль вярсту, уцякач, цяжка дыхаючы, спыніўся і азірнуўся. Пагоні не было. Леў прыўстаў на задні лапы і зірнуў у той бок, дзе засталася яго сям'я з львятамі. Ён ведаў, што ў гэты час прыбышы душаць, а то і рвуць яго нашчадкаў на часткі. Так некалі ён сам, стаўшы дарослым і шукаючы новага прытулку, блукаў па саване, пакуль не натрапіў на прайд, у якім быў стары важак. Той, саслабелы, быў пераможаны. А цяпер ён сам гэтак жа брыдзе невядома куды.

Прыкладна ў гэты ж час статак буйвалаў адбіваўся ад нападу львіц, якія нацэліліся на двух малых буйвалянятак. Тыя туліліся да сваіх дарослых абаронцаў. Чатыры драпежніцы толькі рабілі выгляд, што ім патрэбны буйваляняты. Нападалі адразу на ўвесь статак. Асабліва мітусіўся велізарны стары буйвал — біў рагамі і капытамі. Адзін раз буйвалу ўдалося з усяе сілы збіць з ног ільвіцу заднім капытом. Але раптоўна адчуў слабасць. Ільвіца, лежачы на спіне, раскрыла клыкатую пашчу і ўхапілася за храпу маладога буйвала. Замкнуўшы скіўцы ў смяротным «пацалунку», ільвіца перакрыла буйвалу дыханне. Астатнія накінуліся на яго. Хутка той ужо ляжаў на зямлі.

Стары буйвал, баязліва азіраючыся, пачаў паволі аддаляцца ад статка. Толькі цяпер адчуў боль: з верху да нізу было разрэзана сцягно. Бруілася кроў.

Крыху адышоўшы ад месца бойкі, стары буйвал лёг. Сілы пакідалі. Усё настойлівей дакучала смага — нібыта вогнішча пад ветрам. Невыносная пякотка нагадвала ўсяму велізарнаму целу пра ваду. І буйвал, сабраўшы сілы, падняўся, строс з сябе пясок і прынюхаўся. Лёгкі ветрык прынёс пах вільгаці. Буйвал удыхнуў перасохлымі храпамі струмень вільготнага паветра і павольна скрануўся з месца. Вільгаць вабіла.

Хутка паказалася вялікая выгарка з вадой. Буйвал сутаргава пачаў глытаць. Грузнае цела неўпрыкмет поўнасцю спаўзло ў ваду, якая цяпер была наўкол, з усіх бакоў, ад галавы да хваста.

Самец напіўся і хацеў выйсці з гэтай вільготнай аблогі на сухі бераг саваны. Але капыты ўсё глыбей уразаліся ў тванлівае дно выгаркі.

А ў гэта час знямоглы, парэзаны зубамі маладых ільвоў, наблізіўся сюда былы важак прайда. Ільву таксама вельмі захацелася піць. Смага спапяляла яго цела. Пякучыя раны на яго баках смылелі агнём, якія апякаў усё нутро. Леў адчуваў сябе распаленым вогнішчам, прагна хапаў паветра.

Нарэшце дайшоў да вадаёма. Піў захлынаючыся. Хоць вада нагадвала густую пясчаную кашу. Леў нібыта захмялеў, тыцнуўся сваёй велізарнай галавой у ваду, але тут жа з апошніх сіл вырваўся з каламуці. На беразе страсянуўся. У самым цэнтры выгаркі стаяў буйвал…

## Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ

# А як жа я?



Крымскі аўтобус клыпаў па разухабістай дарозе. Ад спёкі дзень здаваўся мутным і апатычным, неба — млявым. Але ў аўтобусе было весела. Чырванатварыя ад загару і злёгку сп'янелыя ад духаты турысты спявалі і жартавалі. Дарога вяла нас да горнага возера…

Аўтобус неўзабаве спыніўся каля невялікага паселішча. Мясцовыя жыхары ля драўляных прысадзістых хатак прыгандлёўвалі самаробным віном і ледзь паспелымі персікамі. Але з нашага аўтобуса да іх ніхто не падышоў. Усе спяшаліся да возера. Срэбным грошыкам яно зіхацела здалёк, а зблізку аказалася чароўным сподачкам з высокай аблямоўкай шэрых мудрагелістых гор.

Каля вады быў невялікі пляж з буйным, цёмным, як грэчка, пяском.

Я трохі пабоўталася ля берага і паплыла далей… Сонца казытала плечы і сляпіла… Побач то апускалася з галавой пад ваду, то з цяжкім уздыхам вынырвала незнаёмая жанчына. Глытала паветра і зноў знікала. Спачатку я падумала, што жанчына вучыцца ныраць, але яе ўздыхі неўзабаве сталі падобныя да напружаных стогнаў. Незнаёмка захлыналася. Я паспрабавала дастаць нагой да дна — ніяк! Паглядзела з непакоем на бераг, але там грэліся на сонцы толькі жанчыны і дзеці. І тут я заўважыла, што ў ваду ўваходзіць здаровы дужы мужчына.

— Хутчэй плывіце сюды! Чалавек тоне! — паклікала я.

Крык атрымаўся істэрычным і звонкім. Горнае рэха падхапіла мой лямант і разнесла на ўсё наваколле. На беразе адразу стоўпіліся людзі. Яшчэ некалькі секунд — і здаравяка быў каля нас. І я ўжо ўяўляла, як Геркулес падхопіць жанчыну на рукі і з выглядам пераможца вынясе з вады. Але пачвара-возера нібы схапіла абодвух нябачнымі зубамі. Жанчына сутаргава і чэпка хапала Геркулеса за рукі і плечы, цягнула яго да дна. Я адчайна па-сабачаму валтузілася каля іх, яшчэ да канца не разумеючы, што самае страшнае, непапраўнае зусім побач шчоўкае магутнымі сківіцамі, зараблівае на дно вадаёма.

І вось нечакана чыесьці рытмічныя воплескі рассяклі водную роўнядзь. Гэта спяшаўся на дапамогу малады хлопец з нашага аўтобуса! Цяпер ужо двое мужчын змагаліся за жыццё незнаёмкі. Але тая нібы звар'яцела: упіралася і хапала мужчын за рукі, не даючы ім рухацца, зрываючы ўсе спробы ўзняць яе галаву над вадой. Гэта была нейкая абсурдна-цяжкая барацьба. Стогн, мужчынскае дыханне, якое пераходзіла ў хрып, хлюпанне азёрнай бездані… Нарэшце рукі жанчыны абмяклі, галава бездапаможна павісла, і мужчыны змаглі выцягнуць няшчасную на бераг.

Сярод разявак на пляжы быў хлопчык гадоў васьмі. Смуглае чарнявае дзіцё глядзела на ўсё разгубленым позіркам. Яго вочы колеру разынак былі напоўнены страхам. Застылыя слёзы на загарэлым твары змяшаліся з прыліплым да шчок берагавым пяском…

— Мамачка! Матулька! — шаптаў малы. Жанчына закашлялася.

— Усё добра! Мама выратавана! Не плач! — сказаў хтосьці з натоўпу.

— А вы адкуль прыехалі? — асцярожна спытала бабулька з маленькай унучкай на руках.

— З Масквы…

— Ты толькі з мамай адпачываеш?

— Не, яшчэ бабуля і дзядуля з намі, але яны там, у Судаку, засталіся, — прызнаўся хлопчык. — А тата дома, у Маскве. Ён працуе.

Хлопчык падышоў да маці і ласкава паклаў сваю далонь ёй на спіну.

— Матуля, любімая! — прашаптаў ён.

Жанчына ляжала на пяску ўніз тварам. Адчуўшы сынаву руку, яна нарэшце ўзняла галаву і нечакана плаксіва вымавіла:

— Навошта?! Хто вас усіх прасіў мяне ратаваць? Я жыць не ха-чу…

Натоўп разявак незадаволена загудзеў. Як ад крапівы, хлопчык адарваў ад матчынай спіны сваю руку, прысеў побач, сцяўся, схаваў галаву ў худзенькія плечы і задрыжаў…

Па дарозе дамоў усе маўчалі, у аўтобусе здарэнне не абмяркоўвалі. Ніхто не стаў дазнавацца, што здарылася ў няўдалай самазабойцы.

Але нейкае агіднае, цягучае пачуццё ахінала нашы сэрцы. Усе разумелі, што хлопчык маме даруе… але ніколі не забудзе гэты выпадак!

…Я знішчыла ўсе фотаздымкі з той паездкі. Прыгажосць прыроды на іх мне здавалася здзеклівай усмешкай смерці, і заўсёды бачыўся белы ад болю твар таго хлапчука з ледзяным пытаннем у вачах: «Мама, а як жа я? Мама, а як жа я тут застануся адзін?.. Адзін у чужым месцы, паміж Судакам і Кактэбелем? Як жа я без тваёй цеплыні, абароны, заўсёднай дапамогі? Мама, як жа так?!»

# Фантазёры з краіны азёраў

**У леташнім 39-м нумары на гэтай самай паласе друкаваўся артыкул Алега Грушэцкага пра фантастыку: у агульных словах — пра асаблівасці жанру і яго вытокі, падрабязней — пра беларускіх аўтараў, што працуюць у гэтым рэчышчы. Між іншым гаварылася і пра адгалінаванні фантастыкі, сярод якіх — надзвычай папулярнае сёння фэнтэзі. Менавіта яму прысвечаны гэты артыкул.**

## АНАТОМІЯ ЖАНРУ

Фэнтэзі — жанр фантастычнай літаратуры, у аснове якога казачныя і міфалагічныя матывы. Нярэдка яго сюжэты заснаваныя на матывах кельцкіх і скандынаўскіх саг (валійскі «Мабіногіён», ісландскі «Старэйшая Эда»), на гераічным эпасе ранняга Сярэднявечча («Беавульф») і вельмі цесна знітаваныя з рыцарскімі раманамі «артураўскага» цыкла. Адсутнасць навуковасці і скіраванасць у мінулае — вось яго адметныя рысы.

Галоўныя героі зазвычай надзяляюцца звышздольнасцямі (чараўнікі, друіды, празорцы і г. д.) ці чароўнымі прадметамі (рыцары з незвычайнай зброяй). Да іх далучаюцца міфічныя стварэнні, нярэдка запазычаныя з сярэднявечных бестыярыумаў (цмокі, аднарогі, пярэваратні). У аснову сюжэта, як правіла, кладуцца вандраванні маладога героя, яго змаганне з пачварамі і выратаванне свету.

Як асобны жанр фэнтэзі пачало фарміравацца на мяжы XIX — XX стагоддзяў, і сёння ўзорнымі творамі жанру лічацца «Уладар пярсцёнкаў» Дж. Р. Р. Толкіна, «Хронікі Нарніі» (1950 — 1956) К. С. Льюіса, «Чараўнік Земнамор’я» (1968—1990) У. Ле Гуін і «Гары Потэр» (1997 — 2007) Дж. К. Роўлінг.

## НЯЎЖО І КУПАЛА?..

З даўніх часоў у беларускай культуры прысутнічалі фэнтэзійныя, калі меркаваць на сучасны лад, элементы, народжаныя фальклорам ды міфалогіяй. Калі ж казаць менавіта пра мастацкую літаратуру, першым варта згадаць Адама Міцкевіча. У сваёй творчасці ён не раз звяртаўся да вобразаў міфалагічных істот. Прыкладам, Свіцязянкі, насельніцы возера Свіцязь, белатварыя дзяўчыны з даўгімі распушчанымі валасамі, у якіх ператварыліся жанчыны горада Свіцязь, затопленага багамі па іх просьбе, каб пазбегнуць зганьбавання варожым войскам. Гэтыя стварэнні з’яўляюцца ў баладах «Свіцязь» (1820), «Свіцязянка» (1821), «Рыбка» (1822). Натуральна, нельга з гэтай нагоды называць А. Міцкевіча аўтарам першага беларускага фэнтэзі: то былі толькі элементы жанру, ды і тыя выкарыстоўваліся, так бы мовіць, сімвалічна, дзеля стварэння адпаведнага рамантызму пафасу.

Найбольш ярка беларуская міфалогія адлюстраваная ў творы Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844 — 1846), які згадваўся ўжо і ў аглядзе фантастычнай літаратуры, і прыгодніцка-авантурнай — такі «першапраходніцкі» твор падарыў беларусам Я. Баршчэўскі. Аўтар пераносіць нас у фантастычную, прыдуманую Беларусь, дзе чытач сустракаецца з пярэваратнямі і іншымі пачварамі, з волатамі і цмокамі, чараўнікамі і чарнакніжнікамі. Па выкарыстанай міфалагічнай аснове яго творчасць варта аднесці да такога субжанру, як славянскае фэнтэзі, у аснове якога ляжыць спалучэнне славянскага фальклору (паданняў, былін, міфаў) і стандартных фэнтэзійных канонаў.



Малюнак Алесі Ісы.

Увогуле, беларуская літаратура і міфалогія непарыўна звязаныя, і калі ўлічыць, што менавіта міфалогія з’яўляецца «маці» фэнтэзі, мы можам убачыць элементы гэтага жанру ў творчасці многіх аўтараў, у тым ліку класікаў. Што тым больш парадаксальна, калі ўлічыць, што сёння ў межах фэнтэзі ствараюцца хутчэй масава-папулярныя творы, чым высокамастацкія.

Звернемся да нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы. У дачыненні да яе даследчыца Г. М. Мятліцкая ўжывае тэрмін «купалаўскі міфалагізм». Пэўны час міфалагічная вобразнасць у творчасці паэта была ледзьве не дамінантнай. «Цемнатворцы» ды такія міфічныя і паганскія істоты, як ведзьмы, ваўкалакі, чэрці, вадзянікі, русалкі ды іншыя пануюць у яго вершах «У вечным боры...» (1912), «Русалка» (1912), «Хохлік» (1911), «Дзе ні вылеці з няволі...» (1906), «Забытая карчма» (1907), «Люлі, люлі, мужычок!» (1905—1907), «Ноч за ночкай» (1909), у паэме «Сон на кургане» (1910). Чаго варты адзін толькі ўрывак з верша «Забытая карчма»:

*Жэняць ведзьму з ваўкалакам,*
*сватае шынкар,*
*попам — рабін, ведзьма —*
*дзякам, а чорт — гаспадар.*
*Так гуляюць, покуль недзе*
*не кігне пятух...*
*Гіне ўсё, і па бясседзе пуста,*
*сумна ўкруг.*

Асаблівае месца займае творчасць Уладзіміра Караткевіча. У кантэксце стварэння новых мастацкіх сусветаў Андрэй Хадановіч праводзіць асацыяцыю паміж ім і Дж. Р. Р. Толкінам. З гэтай нагоды стваральнікам беларускага фэнтэзі ён лічыць менавіта У. Караткевіча.




Сапраўды, для творчасці апошняга характэрны не толькі гістарызм, але і асобныя міфалагічныя рысы. Крытык А. Ненадавец у артыкуле «Міфалогія ў творах Уладзіміра Караткевіча» заўважае, што «ў творах пісьменніка самі паняцці «чарадзейка», «чараўнік», «знахар», «варажбіт» амаль не адрозніваюцца па сэнсе, хаця тут былі, адпаведна, свае тонкасці, выпрацаваныя шматвяковым практычным вопытам народа».

## КРАІНА ЛЕЙТАВА

Жанр фэнтэзі сёння здабыў вялікую папулярнасць у беларускіх аўтараў. На думку старшыні секцыі «Прыгоды і фантастыка» СПБ Уладзіміра Кулічэнкі, большы поспех дасягнуты якраз у гэтым жанры, а не ў навуковай фантастыцы, бо фэнтэзі і яго падджанры больш даступныя для ўспрымання сучаснага чытача і таму хутчэй знаходзяць водгук.

Вылучаецца Вольга Грамыка, чые кнігі (выдаецца з 2003 года) адрознівае іронія, месцамі — сарказм. Галоўныя героі — персанажы, якія ў традыцыйным фэнтэзі лічацца адмоўнымі: ведзьмы, вампіры, пярэваратні, цмокі, тролі і іншыя.

Яшчэ па адной прыдуманай краіне — на гэты раз заснаванай на легендах і паданнях Вялікага Княства Літоўскага — мы можам павандраваць у рамане «Ганітва» пісьменніцы Нікі Ракіцінай (сапраўднае імя — Людміла Багданава). Героі — сапраўдныя беларускія персанажы, і гэтаксама пазнаецца тапаніміка беларускіх гарадоў. Прататыпам Омеля з'яўляецца Гомель, родны горад пісьменніцы. Назвы ж вёсак і сяліб на старонкі кнігі пераносіліся наўпрост з карты Беларусі: Строчыцы, Макееўка, Наўліца. Сама краіна завецца Лейтавай — як гістарычная Літва, ВКЛ.

На кангрэсе «Еўракон-2008», заснаваным Еўрапейскім саюзам навуковай фантастыкі, эксперты прызналі беларуску Ніку Ракіціну лепшым маладым пісьменнікам-фантастам.

На беларускіх землях разгортваюцца прыгоды ў цыкле казак Пятра Васючэнкі «Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» («Прыгоды паноў Кубліцкага і Заблоцкага» (1997) і «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі» (2003)). Твор, часам абсурдны, і камічны, і філасафічны, дазваляе нам збоку паглядзець на нелагічнасць чалавечых жаданняў. Усё гэта падаецца з гумарам, якому лепш за ўсё пасуе эпітэт «народны». У 2003-м за кнігу «Жылі-былі паны Кубліцкі да Заблоцкі» Пятро Васючэнка ўганараваны прэміяй «Гліняны Вялес», а ў 2013 годзе аўтар звярнуўся да міфалогіі старажытнай Грэцыі, распавёўшы ва ўласцівай яму манеры, займальна і з гумарам, пра подзвігі вядомага асілка Геракла («Дванаццаць подзвігаў Геракла», 2013).

З 2002 года з-пад пяра суаўтараў Андрэя Жвалеўскага і Ігара Мыцько выходзіць цыкл фэнтэзійных раманаў-пародый на вядомую серыю пра Гары Потэра — «Поры Гатэр». Пародыя пабудаваная на «перакульванні» сюжэту: Поры Гатэр тут звычайны хлопчык, які з’явіўся ў вядзьмарскай сям'і, але, да засмучэння сваіх бацькоў, зусім не валодае магічнымі здольнасцямі. Напачатку падабенства з арыгіналам праглядаецца досыць выразна, нават вытрымліваецца адпаведнасць сюжэтных ліній, але ўжо прыкладна пасля чвэрці кнігі сюжэт пачынае заўважна адхіляцца ад арыгінала.

Умоўна да жанру фэнтэзі можна аднесці «аповесць-міф» Людмілы Рублеўскай «Дзеці гамункулуса» (2000), у аснову якой пакладзеная легенда пра чарнакніжніка пана Твардоўскага, стваральніка штучнага чалавека — гамункулуса. У большай ступені заўважны зварот да міфалагічнай спадчыны ў кнізе «Старасвецкія міфы горада Б.».

У цыкле фэнтэзійна-прыгодніцкіх рыцарскіх раманаў «Суддзя і кароль» Іны Сударавай, што распачаўся раманам «Суддзя каралеўскага дома» (2006), героі змагаюцца з ляснымі разбойнікамі, іх чакаюць сутычкі і інтрыгі, здрада сяброў і каханне прыгожых дам, бітвы і слава.




Блізкі да эпічнага фэнтэзі цыкл раманаў Наталлі Новаш «Здабыццё мінулага» (2009), у якім пасля сутыкнення велізарнай каметы з Зямлёй адкрываюцца «дзверы» паміж светам людзей і светам эльфаў.

У свет магіі, эльфаў, пярэваратняў, людаедаў, вампіраў, вараў і цмокаў пераносіць чытача Святлана Уласевіч, аўтар цыкла раманаў «Сагі пра Цмокаў». Апошнія з’яўляюцца героямі рамана Эльвіры Вашкевіч «Дарога да Срэбных Вадаспадаў» (2014): з далёкай планеты, дзе жывуць цмокі, на нашую Зямлю скіроўваецца пасланец...

Чароўны свет міфалагічных істот сустракае нас у рамане-фэнтэзі Генадзя Аўласенкі «Палонныя чорнага лесу» (2011). У таямнічым Чорным лесе жыве мноства пачвар, непраходныя Паўночныя скалы засяляюць гномы, а паміж лесам і гарамі, на шырокай даліне, жывуць варожыя адно аднаму чалавечыя плямёны.

У жанры прыгодніцкага гераічнага фэнтэзі створаная кніга Аляксея Шэіна «Сем камянёў» (2015). Галоўны герой, хлопчык Ясь, трапляе ў чароўную краіну Эферыю, дзе становіцца ўдзельнікам барацьбы за яе свабоду. Галоўнаму герою трэба разгадаць загадку крышталяў, каб выратаваць жыццё сваёй сяброўкі і вызваліць чароўную краіну ад прыгнёту злога самазванца. Кніга пра веру, свабоду і каханне, за якія часам трэба змагацца з мячом у руках.

На беларускай міфалогіі заснаваная кніга Сержа Мінскевіча «Усмешка жалобнай каралевы, альбо Таямніца магнітнага замка» (2013). У вобразе героя казкі, мастаку-вандроўніку Дроздзічы, які ходзіць у ботах з чырвонага саф'яну, з чароўным парасонам-кіёчкам і малюе не ўсмешкі, а «ўсмуткі», забіраючы сум людзей, лёгка пазнаецца легендарны беларускі мастак Язэп Драздовіч. Галоўныя героі аповесці — Алеола, «будучая ясна панна», і Арцін, будучы віцязь са Светлаазёрнай краіны. Іх бацькоў разам з усімі жыхарамі мястэчка выкрала Жалобная Каралева Паляндра, і дзеці выпраўляюцца ў шлях, каб перамагчы злую чараўніцу.

Падчас прэзентацыі гэтай аповесці ў адказ на пытанне пра традыцыі беларускай фантастыкі Серж Мінскевіч адказаў цікавай заўвагай: «Мы самыя першыя напісалі фэнтэзі, калі яшчэ і не прыдумалі гэтаму жанру назву. Яшчэ не было Толкіна, а ў нас ужо быў Ян Баршчэўскі...».

Так ці не, аматарам беларускага фэнтэзі заўжды будзе што пачытаць.

**Алег ГРУШЭЦКІ,**
**Наста ГРЫШЧУК**

# Хто прачытае «Памылку…»?




*Дзятлаў, А. М. Памылка старога глушца: апавяданні, навелы, эцюды: / Алесь Дзятлаў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2014. — 302 с.*

Для гараджаніна лета — час далучэння да прыроды, магчымасць адчуць сваю першародную еднасць з травінкамі, птушкамі... Уяўляецца ідылічная карцінка: цёплы вечар, утульны вясковы ці дачны дом, жэўжыкі-ўнукі побач з дзядулем у акулярах. На каленях у дзядулі кніжка — са змрочнай вокладкай і лаканічным афармленнем, але, нягледзячы на гэта, дзеці адклалі свае планшэты і слухаюць з цікаўнасцю. Вядома, гэта проза Алеся Дзятлава (бо цяжка паверыць, каб яе чыталі ў іншай сітуацыі), і ўнукам асабліва пашанцавала, калі дзядуля разгарнуў апавяданне «Любіць волю», «Верны сябра» альбо «Знаходка ў кювеце».

Беларусы збольшага любяць прыроду, але з гэтага не вынікае, што яны вельмі любяць пра яе чытаць. Дынамічныя апавяданні і навелы А. Дзятлава могуць прывабіць чытача — але, відаць, ні аўтар, ні выдаўцы канчаткова не вызначыліся з мэтавай аўдыторыяй падрыхтаванага выдання. Хто будзе чытаць «Памылку старога глушца»? — гэтае пытанне нязбыўна круцілася ў галаве падчас знаёмства з кнігай, але канчатковага адказу не знаходзілася...

> *«Некалькі апавяданняў з «Памылкі…», аздобленыя вялікімі ілюстрацыямі, маглі б пабачыць свет у выглядзе кніжкі-фарбаванкі. Для многіх твораў Алеся Дзятлава такі варыянт публікацыі самы дарэчны.*

Апавяданні пра сяброўства між хлапчуком і сабакам, гісторыі з «сямейнага жыцця» жывёл і птушак бясспрэчна зацікавяць дзяцей. Пісьменнік часта персаніфікуе жывёл, апісвае іх думкі і ўспрыманне пэўнай сітуацыі, але часам перабольшвае з уражлівасцю нашых меншых братоў. Напрыклад, цяжка ўявіць ліса, які пабачыў смерць сваіх суродзічаў і два дні нічога не еў ад жаху. У кнізе А. Дзятлава жывёлы гінуць даволі часта, і трагічныя смерці герояў могуць вельмі засмуціць маленькага чытача.

Смерць альбо ратаванне магчымай ахвяры — галоўныя падзеі ў многіх апавяданнях пра жывёльны свет. Моцны і здаровы хутчэй за ўсё перамажа слабога і старога, прызначанага матухнай-прыродай яму ў харчаванне. «Кожнаму трэба жыць. Не ўбярогся, своечасова не заўважыў небяспеку, і кіпцюрыстая лапа ўвап'ецца ў цела ці ўмомант раздзяруць моцныя і вострыя іклы». Суровыя законы лесу ілюструюцца ў шматлікіх апавяданнях Дзятлава.

А вось ўратавацца ад чалавечай зброі аднолькава няпроста для кожнагаляснога жыхара. Забойства жывёлы, не абгрунтаванае натуральнай патрэбай у ежы, — справа жорсткая і злачынная, таму чытачы «Памылкі...» дакладна не вырастуць паляўнічымі. Кніга вучыць шкадаваць і шанаваць усё жывое, і кожны дарослы, якому яна трапіць у рукі, абавязкова захоча пачытаць выхаваўчыя творы дзецям. У апавяданнях для дзяцей дапушчальнай была б аднастайнасць сюжэтаў, якая назіраецца ў зборніку, але трагічныя фіналы даваляся б змяняць на нешта больш пазітыўнае.

У кнізе А. Дзятлава прадстаўлены і эцюды, у якіх апісваюцца радасныя сустрэчы з прыродай. Уразіла аўтара незвычайная расліна ці птушка — і атрымалася невялічкая прыгожая замалёўка. Эцюд будзе належным чынам ацэнены чалавекам з чулай паэтычнай душой, які любіць прыроду і ўмее заўважаць яе хараство. Будучыя біёлагі, паэты ці мастакі разам з аўтарам захопяцца жоўтай кветачкай гарбузніка, якая з'явілася позна ўвосень, здзівяцца чырванагрудым гілям — украсай зімовага краявіду. У кнізе для чытачоў школьнага ўзросту такія абразкі добра глядзеліся б побач з займальнай ілюстрацыяй ці фотаздымкам, але чорна-белае афармленне Міхаіла Дайлідава верагодна не прадугледжвае дзіцячай увагі да выдання.

Тым часам цяжка ўявіць дарослага чытача, які зацікавіцца павучальнымі гісторыямі пра самаўпэўненага вожыка ці працавітую пчалу, і таму шкада, што змест кнігі не адпавядае яе фармату. Некалькі апавяданняў з «Памылкі…», аздобленыя вялікімі ілюстрацыямі, маглі б пабачыць свет у выглядзе кніжкі-маляванкі. Для многіх твораў А. Дзятлава такі варыянт публікацыі атрымаўся б самым дарэчным.

Пісьменнік больш за дваццаць гадоў адпрацаваў у часопісе «Родная прырода». Ён добра ведае расліны і жывёльны свет і распавядае пра яго на цудоўнай беларускай мове, якую можна пераняць толькі ў натуральным асяродку. Блукаць па лесе ў такой кампаніі вельмі карысна, тым больш што Алесь Дзятлаў умее цікава распавядаць пра лясныя здарэнні і не злоўжывае доўгімі апісаннямі.

Пад вокладкай «Памылкі...» можна адшукаць выдатныя творы для сямейнага чытання, і лета — найлепшы час, каб разам з дзецьмі ўзяцца за гэтую кнігу.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Пераклад? Пера-скарб!

**Што б ні казалі пра беларускую літаратуру, корпус тэкстаў для дзяцей у ёй надзвычай моцны. І, пэўна, не будзе перабольшаннем сказаць, што кожны айчынны пісьменнік так ці іначай спрычыніўся да гэтай справы, да стварэння свету, у якім растуць маленькія беларусы. Не менш папрацавалі і перакладчыкі, дзякуючы якім у нас ёсць магчымасць чытаць лепшыя гісторыі на роднай мове.**

Найноўшы здабытак тут — «Казкі» Вільгельма Гаўфа, над якімі папрацавала каманда часопіса «ПрайдзіСвет». Гэта самы поўны збор твораў Вільгельма Гаўфа па-беларуску. Толькі ў ліпені першыя асобнікі з'явіліся ў сталічных кнігарнях. Ілюстрацыі для выдання стварыла Кацярына Дубовік.

Кнігу склалі казкі з трох «Альманахаў казак для сыноў і дачок знатных саслоўяў», што выходзілі ў 1826-м, 1827-м і 1828-м гадах. Першы патрапіў у выданне цалкам (сем казак, сярод якіх «Маленькі Мук»). З другога альманаха ўключаныя чатыры казкі, у тым ліку «Карлік Нос». З апошняга ўвайшоў толькі адзін твор — «Халоднае сэрца». Большасць перакладаў друкуецца ўпершыню.

Ці з'яўляліся казкі Вільгельма Гаўфа ў перакладах на беларускую мову раней? Так. Самымі першымі выйшлі якраз «Маленькі Мук» і «Карлік Нос», і было гэта ажно ў 1938 годзе. Праўда, перакладаліся казкі з рускай мовы. З нямецкай «Маленькі Мук» упершыню быў перакладзены ў 1977 годзе Даірам Сляповічам. Толькі праз чвэрць стагоддзя з'явіліся новыя пераклады Гаўфа — то быў зборнік «Прыгажуня ў сонным лесе», выдадзены «Юнацтвам» у «Бібліятэцы замежнай дзіцячай літаратуры». Працавалі над ім Алена Васілевіч, Уладзімір Ліпскі, Яўген Хвалей, Анатоль Клышка і Уладзімір Карызна. Найноўшымі да сёлетняга зборніка лічыліся пераклады Уладзіміра Папковіча — «Карлік Нос» і «Малады англічанін» 2014 года.

«Казкі» братоў Грым у перакладзе Альгерда Бахарэвіча выйшлі ў мас-тацкім аздабленні Васілісы Палянінай-Календы. Супервокладка, залатое цісненне, незвычайныя і непаўторныя ілюстрацыі зрабілі кнігу маленькім шэдэўрам. У яе ўвайшлі не толькі класічныя казкі, але і малавядомыя «Тры фельчары» або «Дзяўчына без рук».



Калаж Віктара Калініна.

Гучыць жудасна, ці не так? Увогуле, «Казкі» нельга назваць выключна дзіцячым выданнем. Але, як высветлілася, дзеці якраз і ўспрымаюць страшныя гісторыі як проста гісторыі, а палохаюцца збольшага дарослыя.

Калі вы чыталі гісторыі з жыцця мумітроляў і вам спадабалася, падзякаваць трэба Алесі Башарымавай і Насце Лабадзе. У 2011 годзе пабачыла свет «Камета над далінай мумітроляў» і «Капялюш чарадзея», у 2010-м — «Маленькія тролі і вялікая паводка».

Усе кнігі серыі выйшлі ў вельмі ўдалым фармаце і з малюнкамі самой аўтаркі, фінскай пісьменніцы Тувэ Янсан.

Пэўна, найбольш складанай для перакладчыкаў сталася «Камета…»: апроч мумітроляў, тут «жывуць» хемулі, скруты, кнюты ды іншыя стварэнні, якія мусілі загучаць па-беларуску не горш, чым у арыгінале. Пра тое, што ў перакладчыкаў усё атрымалася, сведчыць папулярнасць выданняў у чытача.

Увогуле, шведска-беларускія пераклады дзіцячай літаратуры апошнім часам самыя плённыя. Зноў вернемся ў 2010 год: тады выйшла кніга «Малы і Мядзведзік» Юі і Томаса Вісландэраў. Гісторыю для самых маленькіх пераклала са шведскай Надзея Кандрусевіч. Героі твора — такія ж дзеці, як і яго магчымыя чытачы. Як пазначае анатацыя, з імі «не здараецца нічога незвычайнага, — яны не трапляюць у казачную краіну, не сустракаюць чароўных істотаў і не сутыкаюцца з чымсьці зусім неверагодным. У кожнай з невялікіх гісторый вядзецца размова пра самае звычайнае жыццё і самыя штодзённыя рэчы». А Мядзведзік — гэта цацка, якой Малы распавядае пра свае звычайныя, але такія асаблівыя прыгоды.

Зноў імя Надзеі Кандрусевіч прагучыць у 2014 годзе, калі па-беларуску выйшлі кнігі «Віта Белая Крэска» ды «Віта Белая Крэска і Эйвінд» Сары Лундберг, шведскай пісьменніцы, мастачкі і ілюстраткі. У першай гісторыі аўтар распавядае пра дзяўчынку Віту, якая дапамагае хлопчыку перайсці дарогу і малюе пешаходны пераход (надзвычай для нас актуальна). Выступае С. Лундберг і ў ролі мастачкі.

У другой гісторыі Віта знаходзіць сябра Эйвінд, якога ці не адразу ж губляе і выпраўляецца на пошукі. І зноў у беларускім выданні выкарыстаныя аўтарскія ілюстрацыі, вельмі яркія і дэталёвыя.

Як адзначае перакладчыца, першая кніга напісаная ў больш педагагічнай манеры, а ў другой і трэцяй, пакуль не перастворанай па-беларуску, «Сара Лундберг уздымае больш філасофскія пытанні, выкарыстоўвае кантрасныя дэтальныя вобразы, як у апісанні, так і ў малюнках».

Алеся Башарымава, якую мы згадвалі разам з мумітролямі, таксама не спынілася на знаёмстве з Тувэ Янсэн. У 2013 годзе па-беларуску «загаварыў» «Снежны чалавек» Эвы Сусы, прычым на прэзентацыю перакладу ў Мінску прыязджала сама пісьменніца. Гісторыя, вельмі папулярная ў Швецыі, распавядае пра сяброўства братоў Уна і Макса са снежным чалавекам.

А праз год яшчэ адзін шведскі герой загаварыў па-беларуску. Дакладней, «заспяваў»: то быў хлопчык, які любіў спяваць, але саромеўся публікі. Ён перамог свой комплекс, а Алеся Башарымава яшчэ раз адолела цяжкасці перакладу. Так кнігарні і бібліятэкі займелі «Найлепшага спевака ў свеце» Ульфа Нільсана і Эвы Эрыксан.

На гэтым сённяшні аповед пра перакладную дзіцячую літаратуру Беларусі давядзецца спыніць, але праца перакладчыкаў ідзе, рыхтуюцца новыя кнігі, а значыць, будуць і новыя аповеды.

**Наста ГРЫШЧУК**

Аблічча

# Вартая нашай памяці

**Пішучы і гаворачы пра пісьменнікаў-мужчын, мы амаль ніколі не згадваем пра іх жонак (і наадварот). Хаця, што і казаць, нялёгка ўладкаваць быт, калі ў сям'і нехта з сужэнцаў (а то і абодва) у вольны ад асноўнай працы час займаецца творчасцю. Аб вострыя скалы быту нярэдка разбіваецца «любоўны карабель»...**

І ўсё ж сустракаюцца прыклады гарманічных сямейных узаемаадносін, калі жонка, свядома ахвяруючы сваім «Я», стварае аптымальныя мажлівасці для выяўлення мастакоўскага таленту свайго мужа, становіцца для яго не толькі самым блізкім прыяцелем, але і своеасаблівым анёлам-ахоўнікам. Адзін з такіх яскравых прыкладаў — не, узораў! — Яўгенія Кузьмінічна Дэйч (1919 — 2014), гадавіна з дня смерці якой споўнілася 22 ліпеня.

З Яўгеніяй Кузьмінічнай мне пашчасціла асабіста пазнаёміцца яшчэ ў далёкім 1971 годзе ў Маскве, калі на Савеце па беларускай літаратуры пры СП СССР абмяркоўваліся планы юбілейных выданняў на рускай мове твораў Янкі Купалы ў 3-х тамах і Якуба Коласа ў 4-х тамах. Пры абмеркаванні праспектаў гэтых выданняў павінен быў выступіць і Аляксандр Дэйч (1893—1972) — прафесар, двойчы доктар навук (філалагічных і мастацтвазнаўства), адзін з найвыдатнейшых, еўрапейскай вядомасці, савецкіх літаратуразнаўцаў, выдавец, перакладчык, эсэіст, аўтар многіх даследаванняў па гісторыі рускай, украінскай і заходнееўрапейскай (перш за ўсё нямецкай) літаратур. Бібліяграфія яго публікацый налічвае звыш 2000 пазіцый! Аднак Сяргей Баруздзін, які вёў пасяджэнне, са шкадаваннем паведаміў:



Львоў, жнівень 1986 г.

«На жаль, Аляксандр Дэйч прысутнічаць на савеце не зможа. Ён цяжка захварэў». Ды тут жа дадаў: «І ўсё ж думкі Аляксандра Іосіфавіча адносна «рускага Купалы» і «рускага Коласа» мы пачуем. Яго выказванне на гэты конт зачытае жонка Яўгенія Кузьмінічна».

Тады ж, на пасяджэнні савета, пасля якога, дарэчы, А. Дэйча вельмі хутка не стала, я даведаўся пра няпросты лёс сям'і Дэйчаў. Аляксандр і нашмат за яго маладзейшая Яўгенія пажаніліся перад самай вайной, разам жылі ў эвакуацыі ў Ташкенце, а пасля вайны — у Маскве. Хвароба вачэй, якая ў Аляксандра Іосіфавіча пачалася яшчэ ў 1930-я гг., стала асаблівая шпарка развівацца ў часы вайны (стрэсы, перажыванні, голад...) і ўрэшце прывяла да поўнай слепаты. Такім чынам, Яўгенія Кузьмінічна стала для мужа ўсім: і павадыром, і нянькай, і сакратаром-памочнікам у пісьменніцкай працы, і звычайнай машыністкай, і рэдактарам шматлікіх публікацый... А менавіта ж пасля вайны Аляксандра Дэйча часта з розных нагод запрашалі ў паездкі як па сваёй краіне, так і за мяжу. Менавіта на час пасляваенны прыпадае самы плённы перыяд яго творчасці, які выявіўся ў цікавых дакументальных аповесцях «Амундсен», «Тарас Шаўчэнка», «Гары з Дзюсельдорфа. Аповесць пра Генрыха Гейнэ», «Ламікамень. Аповесць пра Лесю Украінку» і некаторых іншых твbooрах. А ў 1967 г. за манаграфію «Паэтычны свет Генрыха Гейнэ» ён атрымаў Міжнародную прэмію Генрыха Гейнэ. Колькі матэрыялаў, у тым ліку архіўных, вачыма Яўгеніі Кузьмінічны было перагледжана пры падрыхтоўцы гэтых і іншых выданняў, колькі перапісана, перадрукавана ўсяго! Нядзіўна, што ранейшы хімік (па набытай спецыяльнасці) Жэня Малкіна (прозвішча ад нараджэння) стала з часам высокакваліфікаваным, прафесарскага ўзроўню, літаратуразнаўцам.

Пасля смерці А. І. Дэйча Яўгенія Кузьмінічна, як рэдка хто з блізкіх родзічаў вялікіх асоб, усю сябе прысвяціла ўвекавечанню памяці пра Аляксандра Дэйча — выданню яшчэ невядомых і перавыданню лепшых раней апублікаваных прац пісьменніка і вучонага, правядзенню юбілейных мерапрыемстваў, яму прысвечаных, публікацыі ўспамінаў пра яго... Дарэчы, пры гэтым напоўніцу выявілася неардынарнасць яе натуры: харызматычнасць, працаздольнасць, крэатыўнасць, кантактабельнасць... У прыватнасці, ва ўкладзенай ёй і выдадзенай у Кіеве кнізе «Между сердцем и временем. Воспоминания об Александре Дейче» (2009) з аповедаў звыш шасцідзесяці яго сяброў, вучняў з розных краін паўстае асоба ўсееўрапейскай велічы, чалавек, які шчодра спалучаў у сабе талент вучонага, пісьменніка і прыгажосць чалавечай душы. На кнігу з'явілася больш як 40 (!) захопленых водгукаў у часопісах і газетах на рускай, украінскай, армянскай, азербайджанскай, абхазскай, асецінскай і іншых мовах.

Пасля таго памятнага савета 1971 года мы з Яўгеніяй Кузьмінічнай неаднойчы сустракаліся, ужо як добрыя знаёмыя, у розных месцах і ў розныя гады: у Маскве — у тым ліку на святкаванні 90-годдзя з дня нараджэння А. І. Дэйча, у Львове і Івана-Франкоўску — у дні 130-годдзя Івана Франко (1986), у нашым Мінску — на розных міжнародных навуковых канферэнцыях... Аднойчы наведалі мы і мой родны Ракаў, дзе я паказаў маскоўскай госці бровар, на якім працавалі бацькі Янкі Купалы перад самым яго нараджэннем, сутарэнні былой



Яўгенія Дэйч (трэцяя злева) сярод беларускіх і ўкраінскіх літаратараў падчас святкавання 130-годдзя з дня нараджэння Івана Франко.

царскай пошты, на адрас якой прыходзілі лісты Льва Талстога да літаратуразнаўца Мар'яна Здзяхоўскага, моўчкі схіліліся перад помнікам 950-і ракаўскім яўрэям, якіх у 1942 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі...

Яўгенія Кузьмінічна пазнаёміла мяне з кніжным зборам Аляксандра Дэйча, з некаторымі дакументамі сямейнага архіва. Дзякуючы гэтаму сталі вядомыя некаторыя факты, звязаныя з творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа. У прыватнасці, у сямейным архіве захаваўся дарэвалюцыйны гімназічны сшытак А. Дэйча, а ў ім — раннія пераклады яго ўладальніка з Гейнэ, Тараса Шаўчэнкі. Знайшліся ў ім і некаторыя пераклады з «Жалейкі» Янкі Купалы. Можна толькі здзіўляцца прадбачлівасці кіеўскага гімназіста, які адчуў геніяльнасць у першым жа паэтычным зборніку беларускага песняра і адразу ж далучыў яго да зорак першай велічыні на небасхіле еўрапейскай паэзіі. З другога боку, як гэта выдатна сведчыць пра папулярнасць купалаўскага паэтычнага слова яшчэ тады, на зары нашага стагоддзя, і дзе — сярод гімназічнай моладзі Кіева!

У тым жа Кіеве малады Аляксандр Дэйч выдаваў літаратурна-мастацкі часопіс на рускай мове «Куранты», разлічаны галоўным чынам на студэнцкую моладзь. У часопісе (цяпер ён — вялікая бібліяграфічная рэдкасць, яго няма нават у Дзяржаўнай бібліятэцы Расіі ў Маскве) публікаваліся Ганна Ахматава, Карней Чукоўскі, Міхаіл Кальцоў, Мікалай Гудзій і інш. І вось у шостым нумары «Курантов» за 1919 год з'явіўся артыкул нейкага В. Яцыны «Поэт из деревни. Творчество Янки Купалы». У артыкуле аналізаваліся вершы з «Жалейкі», хоць, як вядома, да 1919 года ў Янкі Купалы выйшла ўжо некалькі кніг. Ці не свой уласны асобнік «Жалейкі» пазычыў крытыку Аляксандр Іосіфавіч, каб у той складаны перыяд грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі, калі міжнацыянальныя літаратурныя кантакты былі парушаны, яшчэ раз нагадаць украінскім і рускім чытачам «Курантов» пра беларускага песняра?

Што да Якуба Коласа, з якім у час вайны Дэйчы жылі ў Ташкенце ў адным доме — у тагачасным інтэрнаце Акадэміі навук (вул. Пушкінская, 84), — то ў дзённіку Аляксандра Іосіфавіча засталіся запісы, у якіх зафіксаваны і некаторыя невядомыя нам факты з эвакуацыйнага жыцця аўтара «Новай зямлі». Якуб Колас таксама вёў у час вайны свой дзённік, які назваў «Кнігай ташкенцкага быцця». Але гэта было ўжо ў 1943 годзе. У дзённіку ж Дэйча апісаны некаторыя падзеі коласаўскага «ташкенцкага быцця» за 1942 год...

Да самай сваёй смерці Яўгенія Кузьмінічна была няўрымслівай, рупнай працаўніцай: рыхтавала да публікацыі розныя кнігі, архіўныя матэрыялы, якія прывозіла нават з-за мяжы, удзельнічала ў арганізацыі і правядзенні розных семінараў і канферэнцый. Вялікі яе ўклад у выданне збору твораў выдатнага празаіка рускага замежжа Барыса Зайцава, з якім Дэйчы былі асабіста знаёмыя. Асаблівая дружба яе, як і А. Дэйча, звязвала з украінскімі пісьменнікамі і дзеячамі культуры (І. Казлоўскі, І. Драч, Б. Рыльскі, Н. Кастэнка і інш.). Цесна супрацоўнічала яна з кіеўскім Літаратурна-мемарыяльным музеем Максіма Рыльскага: садзейнічала выданню кнігі ўспамінаў пра М. Рыльскага ў Маскве, рыхтавала да выдання перапіску М. Рыльскага і А. Дэйча ды інш. Цёплыя адносіны ўстанавіліся ў яе з абхазскімі дзеячамі навукі і культуры. Менавіта Яўгенія Дэйч паспрыяла вяртанню з Францыі на радзіму праху выдатнага абхазскага мастака Аляксандра Чачба і некаторых яго карцін.

Каб уявіць неспакойны, харызматычны характар Яўгеніі Кузьмінічны, які не змяніўся і ў вельмі паважаным узросце, дазволю прывесці пару вытрымак з яе лістоў да мяне (а мы перапісваліся хоць і не надта часта, але пастаянна). З ліста ад 28.02.2012 г.: «К сожалению, я недавно попала в больницу. Цифру 92 отметила в больнице. Мерцательная сердечная аритмия. Сейчас уже дома. Работаю над томом переписки Рыльского с Дейчем. Удивительно интересная переписка, просто оторваться невозможно (так отражено время!). Но комментарий трудный, поэтому работа продвигается медленно. Две недели жила у меня директор Музея Рыльского. Помогала современной техникой, с которой я не всегда справляюсь...». У чэрвені таго ж года Міжнародны фонд Янкі Купалы і Дзяржаўны музей песняра праводзілі чарговыя міжнародныя Купалаўскія чытанні. Я паслаў Яўгеніі Кузьмінічне запрашэнне на гэту канферэнцыю. Вось урывак з яе ліста ад 19.03.2012 г.: «Только что получила Ваше письмо с приглашением на юбилейные Купаловские чтения. Жаль, но я не смогу вырваться, так как полностью занята подготовкой тома переписки: Рыльский — Дейч... Надо все успеть, а я еще в разных комиссиях, в проведении вечеров и обсуждений. И здоровье о себе дает знать — 93-й год пошел. Три инфаркта пережила... Но не жалуюсь, недавно летала на конференцию в Стокгольм. Все прошло удачно. Но сейчас с утра до вечера — над томом переписки. Так что поездки полностью отменены». Пры гэтым Яўгенія Кузьмінічна паведамляла прозвішчы і адрасы некалькіх маскоўскіх вучоных, якім, на яе думку, варта паслаць запрашэнні на канферэнцыю...

Такой была Яўгенія Кузьмінічна Дэйч. Незаменная сяброўка і памочніца мужа. Сувязная народаў і культур. Асоба.

**Вячаслаў РАГОЙША,**
**фота аўтара**

Кніжны свет

24 ліпеня 2015 г.

Асобы

# Жыццё — драматычны твор

**Нядаўна сталіцу наведаў акцёр і грамадскі дзеяч Мілан Княжко. Пасольствам Славакіі ў Беларусі была арганізавана цэлая культурная праграма, у межах якой адбылася і сустрэча спадара Мілана з сябрамі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Сапраўдным падарункам для гледачоў стаў паказ у Мемарыяльнай зале сталічнага Дома літаратара дзвюх славацкіх кінастужак — «Папілія» (1986) і «Верныя галубы вяртаюцца» (1989). У Мінску Мілан Княжко не ўпершыню. Цёплыя ўспаміны пра Беларусь захаваліся ў яго сэрцы на ўсё жыццё.**



**— Спадар Мілан, вельмі прыемна зноў бачыць вас на беларускай зямлі.**

— Адна з прычын прыехаць сюды яшчэ раз — добрыя ўспаміны пра ролю Яна Налепкі ў ваеннай кінастужцы «Заўтра будзе позна» (1972). Праз столькі гадоў захацелася знайсці людзей, з якімі тады працаваў. І гэта атрымалася! Вельмі рад пабачыцца з адным са сцэнарыстаў карціны — Анатолем Дзялендзікам.

**— Ці змяніўся Мінск, на вашу думку, за такі доўгі час?**

— Змянілася ўсё! Сорак тры гады таму паміж Браціславай і Мінскам была вялікая розніца. А цяпер мы шмат што можам запазычыць з беларускай сталіцы. Мінск у добрай форме.

**— Для паказу беларускаму гледачу вы абралі карціну «Папілія». Ці не было ўнутранага непрымання героя, які віртуозна парушае ўсе законы і нормы?**

— У гэтым фільме гаворка ідзе пра жыццё і смерць. Роль Графа — адна з маіх любімых. Майго героя нельга адназначна назваць ні кепскім, ні добрым. Людзей увогуле нельга характарызаваць аднабакова. Рэжысёр стужкі Іржы Свобада, з якім мы супрацоўнічалі ў дзесяці карцінах, зняў гэты фільм у Празе. Дзеянне адбываецца ў надта складаныя часы, у гады Другой сусветнай вайны, чэшскага пратэктарату. Гэта быў вельмі важны перыяд у жыцці краіны. Не менш значнае і пачуццё гумару, якое дапамагала выжываць у складаных умовах і якога ў фільме якраз хапае. Герой віртуозна балансуе на вастрыі паміж маральным і амаральным. Гэта характэрна не толькі для кіно: само жыццё, не чорнае і не белае, а надзвычай складанае, — драматычны твор.

Фільм распавядае, што адбывалася паміж людзьмі ў такі няпросты перыяд. З аднаго боку, трэба было быць вельмі асцярожным і не вылучацца з масы, каб выжыць, з другога — марылі пра волю, змагаліся і з навакольным светам, і з самімі сабою.

**— Вы працавалі ў Кабінеце міністраў Чэхаславакіі, былі намеснікам міністра замежных спраў Славакіі, міністрам культуры Славацкай Рэспублікі. Як лёс звёў вас з Вацлавам Гавелам?**

— Ён аднакласнік майго прыяцеля… Вацлаў Гавел хацеў, каб я быў яго дарадцам, але я здымаўся ў фільмах, якія трэба было скончыць. І я не мог пастаянна знаходзіцца ў Празе. Але пасля ўсё ж давялося ўвайсці ва ўрад.

**— Ці не шкадуеце вы, заслужаны артыст Чэхаславакіі, пра такі перапынак у творчай дзейнасці?**

— Палітыцы я аддаў 13 гадоў жыцця. Памятаю, у тэатры забастоўка — шэсць тыдняў я не іграў нічога. Разумееце, пасля таго як стаяў перад шматтысячнай аўдыторыяй на трыбуне, даваў абяцанні, немагчыма проста сказаць: «А ўвечары я ўсіх чакаю ў тэатры». Абяцанні трэба выконваць. Так, сёння ў новым будынку працуе Нацыянальны тэатр Славакіі, прайшла комплексная рэканструкцыя ўніверсітэцкай бібліятэкі ў Браціславе, мы дапамаглі захаваць 25 драўляных храмаў, большасць з якіх — праваслаўныя, адзін лютэранскі, грэка-каталіцкі (на ўсходзе Славакіі). Створаны аўдыявізуальны фонд.

**— Суайчыннікі лічаць вас адным з галоўных герояў, дзякуючы якім паміж Чэхіяй і Славакіяй цывілізавана адбыўся «аксамітны развод» — без ахвяр. Вы нават балаціраваліся ў прэзідэнты. Але вярнуліся ў акцёрскую прафесію.**

— Сам для сябе вырашыў: хопіць. Вялікія, грандыёзныя рэчы ў палітыцы ўжо зроблены. Урэшце, усё залежыць ад гісторыі.

**— Дык што ж галоўная справа вашага жыцця?**

— Тое, што раблю цяпер. Рыхтую ў тэатры новы праект канадскага аўтара. Прэм'ера адбудзецца ў красавіку наступнага года.

**— Ці добра вы знаёмы з рускай літаратурай?**

— Канечне, асабліва з драматургіяй. Яе праходзіў яшчэ тады, калі вывучаў драматычнае мастацтва ў Акадэміі выканальніцкіх мастацтваў у Браціславе.

**— Ці пайшлі па вашых слядах дзеці?**

— Старэйшы сын скончыў драматычную школу-інстытут у Празе. Крыху іграе. Сярэдні — прадпрымальнік, жыве ў Славакіі. Малодшы — апаратар. Майму ўнуку Коламану тры з паловай гады. З Мінска вязу яму ў падарунак казку пра рэпку.

**— За што асабліва ўдзячны бацькам?**

— За ўсё. Я нарадзіўся ў Чэхаславакіі (28 жніўня 1945 года. — **В. П.**). Дзяцінства было складаным — мне не споўнілася і пяці гадоў, калі арыштавалі бацьку — за палітычныя погляды. Мама разрывалася на тры працы, каб мы маглі звесці канцы з канцамі. І разам з тым дзяцінства мае было вельмі прыгожым. Пасля давялося працаваць і шахцёрам, і лесарубам.

**— Некалькі гадоў таму вы сыгралі ў амерыканскім фільме-хоразы Элі Рота «Хостэл 2». Як ставіцеся да карцін такога кшталту?**

— Я здымаюся ў славацкіх і чэшскіх тэлесерыялах. Іграю шмат. Акцёру добра, калі ён можа іграць шырокую палітру персанажаў, а не толькі любоўніка ці забойцу. Дарэчы, серыйнага забойцу таксама давялося сыграць.

У «Хостэл 2» (дарэчы, я не гляджу такія фільмы) дыялогі з самага пачатку былі так сабе. Я іграў добра, але фільм атрымаўся кепскі. У такіх выпадках жартуюць: «Добры фільм — заслуга акцёра, кепскі — памылка рэжысёра». Хаця яго здымаў малады амерыканскі рэжысёр, якога курыраваў Таранціна.

**— Як бавіце вольны час?**

— Я страшэнна лянівы. Але калі пачынаю працаваць, працую шмат. Іншым разам гуляю ў гольф, але ўжо не займаюся спортам, як у маладосці. У юнацтве займаўся боксам, маю трэці дан у каратэ. А калі здымаўся ў «Папілія», бегаў марафон.

**— Якая музыка вам падабаецца?**

— Добрая. Люблю аўтэнтычны фальклор. Слухаю пераважна ў машыне, калі вяртаюся дамоў з Прагі — з тэатра.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота аўтара**

## Дайджэст

● Амерыканскія дызайнеры і навукоўцы пераствapылі пах кніг. Запаліўшы свечку з адпаведным водарам, можна апынуцца ў асабняку Гэтсбі, Оксфардскай бібліятэцы, кабінеце Шэрлака Холмса альбо проста адчуць пах старых фаліянтаў. Цяпер ствaральнікі плануюць выпусціць свечы з водарамі фантастычнай літаратуры.

● У цэнтры Санкт-Пецярбурга расквітнелі кніжныя алеі. Выстаўка, якая так і называецца, адкрылася каля Міхайлаўскага замка. Наведаць яе можна да 3 кастрычніка. На выстаўцы прадстаўленыя больш як 15 000 найменняў кніжнай прадукцыі. Тут жа можна паўдзельнічаць у конкурсах і дыскусіях.

● Важатыя новасібірскага спартыўнага лагера Нахімава расклалі вогнішча з кніг. Адбылося гэта падчас змены, прысвечанай юбілею Перамогі. У ліку спаленых асобнікаў апынуліся і кнігі пра вайну. З тлумачэнняў кіраўніцтва лагера стала зразумела, што напачатку старыя кнігі бібліятэкі лагера планавалася вывезці, аднак адзін з важатых «загарэўся» дзіўнай ідэяй. Дырэктар лагера папрасіла прабачэння за інцыдэнт.

● Выдавецтва «Эксмо» падае ў суд на рэсурсы «Флібуста», «Літмір» и «Рутрэкер», маючы на мэце поўнае іх блакаванне. Заканадаўчай асновай для такіх дзеянняў сталі антыпірацкія зводы ад 1 мая 2015 года. Так, паводле новага закона дастаткова двойчы звярнуцца ў суд са скаргай на адзін і той жа рэсурс, каб яго ліквідавалі. Цяпер выдавецтва чакае пасяджэння, што мусіць адбыцца ў Мосгарсудзе.

● Мексіканскі кінарэжысёр Гільерма Дэль Тора напісаў кнігу для дзяцей пад назвай «Паляўнічыя на троляў». Суаўтарам стаў Дэніэл Краус. У 2010 годзе Гільерма заключыў кантракт з кінакампаніяй Dreamworks Animation на стварэнне мультфільма з незвычайным сюжэтам. Лёс стужкі пакуль невядомы, але ідэя мультфільма натхніла рэжысёра на стварэнне кнігі.

● У жніўні 2015 года на фестывалі мастацтваў у Эдынбургу плануецца паставіць спектакль па кнізе Джона Ленана «In His Own Write». Кніга змяшчае вершы, каламбуры, малюнкі і карыкатуры вядомага музыкі The Beatles. Спектакль, такім чынам, будзе ўяўляць з сябе шоу, цягам якога ўсе вершы з кнігі прачытаюць тры акцёры. Мерапрыемства планье наведаць удава Ленана Ёка Она.

● Каліфарнійская мэблевая кампанія Saint Arbor дала другое жыццё дому пісьменніка-фантаста Рэя Брэдберы, у якім той пражыў больш як паўвека. Дом дэмантавалі ў студзені гэтага года, і з яго фрагментаў была выраблена 451 падстаўка для кніг. Так мэблевыя майстры зрабілі адсылку да найвядомейшага твора пісьменніка — антыўтопіі «451 градус паводле Фарэнгейта». Падстаўкі для кніг можна набыць у ЗША за 88,5 даляраў. Частку сродкаў ад продажу плануецца накіраваць у Цэнтр вывучэння творчасці Рэя Брэдберы ў штаце Індыяна.

● У Віцебску ўпершыню прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя памяці Рыгора Барадуліна. Адбылося гэта ў дні горада-2015 у дворыку дома №7 па вуліцы Талстога. Мерапрыемствы атрымлаі агульную назву «Барадулінкі». Аснова «Барадулінак» — кірмаш хэнд-мэйду, дзе можна набыць магніты, вязаныя завушніцы, кулоны з жывымі кветкамі, паштоўкі і нататнікі ручной работы, цацкі ды інш. На «Барадулінках» быў і *Free Market*, і фотасушка і «палічка» буккросінгу: кнігі змясцілі ў корпусе ад тэлевізара.

# 225 вершаў пра...




Як перадаць настрой ліпеньскіх стагоў ці колеры дажджу? Кніга «Мару стаць я мастаком», якая выйшла сёлета ў Выдавецкім доме "Звязда", — зборнік твораў Соф'і Шах складанага і цікавага жанру. Дзецям адрасаваны не проста вершы, а вянок вянкоў санетаў! Аўтар аб'яднала ў 15 частках па 15 вершаў. Тэкст у кнізе — сапраўдныя карункі.

Санеты нагадваюць дзённікавыя запісы. Іх герой — хлопчык Тарас Туманаў, які ходзіць у чацвёрты клас і шукае сябе. На старонках падрабязна апісваюцца яго думкі, перажыванні і, канечне ж, мары. Вось ён хоча ездзіць вярхом на кані па цыркавой арэне, потым стаць тэлеаператарам, спеваком і, нарэшце, пажарнікам. Але раптам яму ў рукі трапляе гітара, і ўвесь дом губляе спакой, асабліва кот Барон, які не ведае, куды схавацца ад гукаў. «Я і сам ужо не рады, што прафесій многа так», — бядуе Тарас. Але ж мары ў дзяцей хутка мяняюцца — гэта нармальна. Мне, напрыклад, хацелася стаць і доктарам, і шпіёнам, і хімікам.

Шчаслівае імгненне (асабліва для бацькоў) надыходзіць, калі хлопчык нарэшце знаходзіць уласнае прызванне. Натхненне наведвае яго раптам на ўроку малявання ў школе. Перад вачыма чытачоў адразу ж паўстае вельмі паэтычная душа Тараса, які прагне далучыцца да таямніца свету выяўленчага мастацтва. Тут нават песня складваецца, а не верш: «Маляванне — вось любоў! / Колер, тон, адценні, фарбы — / дзе ні глянеш, зноў і зноў / пералівістыя скарбы». Але хлопец не ведае, з чаго пачаць.

Садзіцца за стол, бярэ ў рукі алоўкі, фарбы, глядзіць на ліст паперы і размаўляе, чакае, пакуль душа падкажа, што адлюстраваць. Думкі блытаюцца, змяняюцца імкліва, пульсуюць ад хвалявання — гэты працэс апісаны аўтарам кнігі вельмі падрабязна. Тлумачыцца і сутнасць мастацтва, і класіфікацыя колераў, і ўменне бачыць прыгажосць прыроды. Разважанні ў хлопчыка — надзвычай мудрыя для ягонага ўзросту.

Цікавыя вобразы ў дзіцяці нараджаюцца пад уплывам прыроды — вады ў ружовых промнях, васількоў у жыце, аблокаў у блакітным небе. Ён выходзіць далёка за межы адной карціны і думае ўвогуле пра вытанчаную шэрасць зімы і восені, здольнасць дажджоў расказваць цудоўныя гісторыі і набываць розныя адценні. Перад ім паўстаюць шматлікія праблемы пачаткоўцаў: як зрабіць рукі паслухмянымі, лініі — роўнымі і выразнымі, а колеры — чыстымі. Гэтая кніга будзе карыснай не толькі юным мастакам, але і ўвогуле ўсім, хто вырашыў прысвяціць жыццё якому-небудзь віду творчасці ўпершыню.

Аўтар паказвае, што гэта нялёгкі працэс. Герой забываецца нават на гульню з сябрамі. Хлопчык спасцігае новую для сябе навуку і разумее, што першы творчы вопыт — хоць і не ідэальны, але прыносіць асалоду. Знакава, што ён вучыцца далей менавіта на карцінах беларускіх мастакоў: Вашчанкі, Шчамялёва, Шаранговіча, Селешчука, Бараноўскага…

Не дае спакою не толькі Тарасу, але і чулым чытачам свабода і прастор паперы, дзе можна намаляваць што заўгодна: ад далёкіх гор да акіяну, джунгляў, пустынь. Але ж аўтар сцвярджае, што бліжэй за сэрца павінна быць роднае, тое, што побач. Малюнкі ва ўяўленні чытача абуджаюць луг, лес, рэчку, бор, сельскія хаткі…

Санеты выбудаваны надзвычай дасканала, хоць і здаюцца простымі. Аўтар надае вялікую ўвагу не толькі зместу, але і форме. А трэба ж яшчэ, не адрываючыся ад строгай кампазіцыі, захаваць плынь расповеду! Логіка і лірычная прыгажосць захоўваюцца на працягу ўсіх 225 вершаў! Пры тым, што фінальны санет у вянку, па правілах, складаецца з апошніх радкоў кожнага з папярэдніх санетаў. Паэзія ўвесь час замыкае своеасаблівае кола.

Вершаваныя творы Соф'і Шах вельмі шчырыя, пяшчотныя, запамінальныя. Узнікае жаданне калі не пайсці ў краму па фарбы, то дакладна прабегчы басанож па траве, пераплысці маленькую рэчку, абняць бацькоў…

# Шчасце ёсць




Ці ведаеце вы, дзе шукаць шчасце, як спраўляцца з душэўным болем, што значыць шчырая любоў, пранесеная праз гады, і чаму родны дом даражэй за ўсё на свеце? Кніга Сяргея Карыцькі «Спелы жнівень», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме "Звязда", навучыць шмат чаму. У зборнік увайшлі як новыя, так і выбраныя творы аўтара з папярэдніх выданняў, пранікнёныя вершы ў раздзеле «Споведзь» і афарыстычныя мініяцюры пад агульнай назвай «Імгненні».

Увесь час аўтара клічуць родныя вясковыя дарогі Палескага краю, «чароўны шэпт вольхаў і дубоў», «блакітныя вочы нарачанскіх азёр», шум калоссяў, што наліваюцца гаючай спеласцю зямлі… Ён чэрпае сілы ў прыродзе, што прапануе зрабіць і чытачам. «Вада спрачаецца ляніва з берагамі, / За імі сочыць пільная вярба. / Брыду па лузе босымі нагамі, / Хмялее ад паветра галава», — аўтар літаральна заражае сваім негарадскім светапоглядам, цягне ад штодзённых турбот да ніў, пралесак і лугоў…

Малой радзіме ён прызнаецца ў каханні, да яе звяртаецца думкамі, калі на душы горка, дзякуючы ёй забываецца на няўдачы, роспач, смутак і бяду. Вёска, падворак, хата — тут душа паэта заўсёды адпачывае, тут «мар юнацкіх скрутак», які дае сілы жыць, кахаць, тварыць. «Мая сядзіба — мой Сусвет», — кажа Сяргей Карыцька і адразу ж узгадвае самае святое, што ёсць у кожнага чалавека, — маці. «Там яшчэ шчыруюць пчолы ў вуллях / І паветра як гаючы мёд. / Там яшчэ жыве мая матуля, / Дай ёй Бог найболей добрых год».

«Многа год у цябе за плячыма, / І я дзякую Бога і лёс, / Што даруе такую магчымасць / Бачыць вочы твае без слёз. / Хоць ужо не хапае сілы, / Рукі сталі слабець і дрыжаць… / Колькі нас ты ў дзяцінстве насіла / І начэй не магла дасыпаць!» — гучыць шчырая споведзь сына.

У вершах аўтара прасочваецца любоў да ўсяго свету, дзіўны для нашага жорсткага часу гуманізм, павага да людзей, жаданне рабіць толькі дабро. «Што ж наконт шчасця?» — спытаеце вы. «Каб быць шчаслівым, многа не патрэбна — / Праменьчык сонца прывітаў мяне, / І цэлы дзень вакол смяецца неба, / І ад удзячнасці душа мая пяе», — адкажа паэт.

Увесь час Сяргей Карыцька звяртаецца ў вершаваных радках да ўласных успамінаў, азіраецца на гады юнацтва, пераасэнсоўвае пройдзены шлях, вучыць змагацца з песімістычнымі думкамі. Ён аналізуе, як з узростам мяняюцца ідэалы і жаданні, вучыць цаніць маладосць, разумець, што дні ідуць няспынна, таму трэба іх берагчы. «Лёс такі, напэўна, чалавека, / Як бы часам ён не даражыў, / За плячыма болей чым паўвека, / А яшчэ, здаецца, і не жыў. «Як хораша на свеце жыць — вось філасофія аўтара! І няважна, колькі табе гадоў: 16 альбо 70. «Я нямала пражыў, за плячыма ўжо больш за паўвека, / Ды, на шчасце, не страціў жадання зрабіць адкрыццё», — прызнаецца Сяргей Карыцька. Шмат мар, натхнення, планаў віруе ў яго крыві і зараз, бо ён верыць: вецер заўсёды разганяе хмары бяды, і небасхіл успыхвае новай надзеяй.

Мае сваё месца ў кнізе і любоўная лірыка. Аўтар узгадвае таямнічую жанчыну, без якой яму не мілы свет, якая знікла, ды пакінула сляды ў сэрцы. «Ты маё веснавое бяссонне / Непагасная мара мая», — шчыра выгуквае паэт.

Чаму яшчэ вучыць Сяргей Карыцька? Веры! У Бога і сябе. Шчырыя малітвы, просьбы, каб забраў Усявышні ад людзей зайздрасць, гнеў, ганарлівасць, даў дабрыню, спачуванне.

«Нам не хапае добрых слоў, / Як птушкам не хапае неба, / Хаваем ад людзей любоў, / Калі саромецца не трэба...» — стасункі паміж людзьмі — яшчэ адна важная тэма лірыкі аўтара. Ён заклікае дарыць адзін аднаму ўсмешкі, больш размаўляць, дзяліцца думкамі і марамі, клапаціцца пра родных і сяброў.

# Казачныя рыфмы жыцця




Кніга Ніны Галіноўскай «Калі я шчаслівы», што выйшла ў «Выдавецкім доме «Звязда», пакідае ў сэрцы ўстойлівае адчуванне: у свеце няма зла і несправядлівасці. Усе вершы, казкі, жарты, небыліцы для маленькіх «апранутыя» ў такую светлую энергетыку, што хочацца заплюшчыць вочы (нават дарослым) і заспяваць знакамітую «Я на сонейку ляжу...».

Адна з галоўных функцый сабраных у зборніку твораў (дарэчы, радуе іх жанравая разнастайнасць) — выхаваўчая. Дзеткі вучацца паважаць бацькоў, не крыўдзіць жывёл, берагчы і любіць прыроду, выконваць свае невялікія абавязкі, пазітыўна ставіцца да паходаў у дзіцячы садок.

Ніна Галіноўская сама некаторы час працавала выхавацелькай, таму добра ведае асаблівасці паводзін, жаданні і звычкі малых. Пісьменніца ўмее глядзець на свет іх вачыма: «Гэта наш дзіцячы сад. / За акном бярозак рад. / Тут усё для нас, сябры: / Хочаш кубікі — бяры, / Любіш кніжкі — пачытай. / Выразай, малюй, спявай». Дзяўчынкі ў яе мараць стаць балярынамі, а хлопчыкі — капітанамі караблёў. Усе, каму тры гады, лічаць сябе дарослымі. Калі ў лялькі адрываецца ножка, клічуць лекара. Кашулі ў плямах і брудныя рукі пасля вуліцы выглядаюць звыклай з'явай. Люстэркі і вокны так ці інакш хоць бы раз за сваё існаванне сутыкаюцца з мячом... Вось яно — жыццё ў дзіцячым садку, цалкам рэальнае.

Вершы ў кнізе лаканічныя, простыя, але ў іх — жыццёвая мудрасць, своеасаблівы інструктаж пад назвай «Як заусёды знаходзіць шчасце вакол сябе і радавацца кожнай хвіліне». Сапраўды, калі побач бацькі, жывыя і здаровыя, можна гуляць з сябрамі, вучыцца, спасцігаць свет — ці не гэта самае галоўнае для маленькіх?

Большая частка твораў прысвечана харaству прыроды. Героі выдання атрымліваюць шчырую асалоду ад водару траў і кветак на лузе, шпацыруючы пад шатамі дрэў. Ніна Галіноўская расказвае чамучкам цікавыя рэчы пра наваколле: дзе начуе дзень, што будуюць звяры ў лесе, чаму ручай так спяшаецца дабрацца да рэчкі, а пупышкі раскрываюцца раніцай, для каго прыбіраецца маладая бярозка, калі можна пачуць салаўіны канцэрт і навошта дзьмухаўцам парашуты…

Любоў да роднага краю становіцца лейтматывам не аднаго верша. Полацкі нафтабуд, агні Салігорска, Белавежская пушча, лясы, лугі і палі здаюцца лірычнаму герою нязвыклымі і казачнымі, як, дарэчы, і чытачам.

Вялікая ўвага надаецца адметнасцям кожнай паравіны года — смелай фантазёрцы вясны, непаваротлівай і буркатлівай зімы, вясёлага і вольнага лета, задуменнай красуні восені. «Любой парою года люблю цябе, прырода» — так называецца асобны раздзел кнігі.

Шмат распавядае паэтэса пра прафесіі, напрыклад касманаўта ці будаўніка, і ўвогуле любоў да працы. Не абмінае тэму адносін бацькоў і дзяцей. Вельмі ўдала выглядаюць у кнізе маленькія вершы-жарты, з якіх можна пачуць пра тэлевізійнага чарадзея, саву ў акулярах, гусака-фігурыста, хлопчыка, які жыве на Венеры, косіць траву на рацэ, а летам бегае на лыжах...

Знаёмыя персанажы паўстаюць перад вачыма ў раздзеле «Так цікава з баем — казачкі ён бае». Тут і Калабок, які прыкаціўся з казачнай краіны, і Бегемот, што гатуе лекавую каву, а яшчэ гаспадыня Ліса Аліса, Воўк у ботах-скараходах і нават першакласны пілот Баба Яга! Словам, сумаваць не давядзецца.

Марыя ВОЙЦІК

*Ініцыятыва*

# Італьянскі комікс: перастварэнне

**Давайце на хвіліну ўявім, што з Зямлі зніклі камп'ютар, тэлевізар і інтэрнэт. Што рабіць? На дапамогу прыйдуць друкаваныя «сябры» — кнігі, коміксы. Яркія малюнкі плюс тэкст — чым не кіно? А сцэнарыстамі тут выступаюць перакладчыкі. Адзін з іх — заснавальнік выдавецтва «Smart Owl» Дзяніс Пугач.**



*Дзяніс Пугач.*

**— Дзяніс, як узнікла ідэя перакладаць італьянскія коміксы?**

— Усё пачалося шмат гадоў таму, калі я ўпершыню паехаў у Італію і пазнаёміўся з героем італьянскіх коміксаў Дзіланам Догам. У той час я проста прагна чытаў усе кнігі гэтай серыі, якія былі ў калекцыі італьянскай сям'і, дзе я гасцяваў. Гэта было вельмі цікавае чытво, менавіта чытво, бо карцінкі ў гэтым выпадку сыходзяць на другі план, а таксама — добры спосаб палепшыць веданне мовы. Але прайшло яшчэ больш як 10 год, перш чым нарадзілася ідэя выдаваць коміксы. Рашэнне перакладаць з'явілася натуральна, бо па прафесіі я перакладчык, ды і комікс сапраўды варты таго, каб за яго ўзяцца — нездарма ж ён стаў культавым у Італіі. Што да выдання, то быў варыянт заняцца сканлейтам, але я вырашыў пайсці складаным шляхам — набыць у італьянцаў правы на кнігу, перакласці, аформіць і выдаць афіцыйна.

**— Што галоўнае ў вашай працы?**

— Перакласці і аформіць кнігу так, каб потым, калі яна трапіць у рукі чытачу, за яе не было сорамна. Усё ж такі той факт, што яна друкуецца на паперы, накладвае дадатковую адказнасць за якасць. Але быццам пакуль усе задаволеныя.




**— Вы пераствараеце на рускай мове. Ці ўваходзяць у планы пераклады па-беларуску?**

— Вельмі хацелася б, тым больш што два гады таму мы разам з крамай коміксаў «Time to be a Hero» праводзілі апытанку, ці патрэбныя нам коміксы па-беларуску. На жаль, дастатковай колькасці жадаючых не набралася, але я дагэтуль не адмаўляюся ад сваёй мары выдаць нешта культавае на беларускай мове.

**— Ці ёсць у вас любімы комікс?**

— Казаць пра гэта пакуль што рана, бо асартымент не надта вялікі: серыя з дванаццаці кніг пра Дзілана Дога і адна кніга пра Д'яболіка. Пакуль што я аддаю перавагу Дзілану Догу № 9 «Альфа і Амега».

**— Ці займаецеся вы перакладам сусветна вядомых коміксаў *Marvel*?**

— Так, цяпер яны якраз рыхтуюцца да друку, але тайтл (назва комікса або комікс-серыі) пакуль у сакрэце.

**— Што можаце сказаць пра ўзровень культуры чытання коміксаў у нашай краіне?**

— Пэўна, у нас дагэтуль пануе стэрэатып, што коміксы — гэта кніжкі для дзяцей. Людзі бачаць у іх карцінкі і праходзяць міма, хаця абсалютная большасць кніг, што прадаюцца ў згаданай мною краме коміксаў, мае пазнаку «16+» ці «18+», то бок створаны для дарослых. А паспрабуйце пачытаць тэкст ці хаця б унікнуць у сюжэт! Сваёй мовай ды ідэямі гэтыя кнігі дадуць фору як мінімум палове таго літаратурнага трэшу, што друкуецца і прадаецца сёння. Аднак некаторыя творы сапраўды маюць мастацкую вартасць: кожную старонку можна разглядаць як музейную карціну.

**— Ці бачны тут прагрэс?**

— Станоўчыя зрухі ў айчыннай культуры чытання коміксаў адназначна ёсць, гэта можна адсачыць па колькасці падпісчыкаў груп майго выдавецтва і ўсё той жа крамы коміксаў у сацсетках.

**— Наколькі цяжка дамовіцца пра аўтарскія правы?**

— З італьянцамі было вельмі лёгка. Можа, іх падкупіла тое, што я звярнуўся да іх па-італьянску, а можа, яны проста больш адкрытыя да кантактаў і супрацоўніцтва. З амерыканцамі складаней, але дзякуючы рэпутацыі, заробленай на італьянскіх коміксах, цяпер і амерыканцы ідуць насустрач.

**— Над якім коміксам працуеце цяпер?**

— Ідзе праца на 13-м томам «Дзілана Дога» і новым томам «Д'яболіка». Вядуцца перамовы наконт новых кніг, але іх назваў пакуль не раскрываю.

**— А пра стварэнне свайго ўласнага, арыгінальнага комікса не задумваліся?**

— Задумваўся. Але пакуль няма аўтараў і мастакоў, здольных прапанаваць хоць адну поўную арку — звычайна 4-5 сінглаў па 22 — 24 старонкі. Сінглы аб'ядноўваюцца ў збор некалькіх выпускаў адной серыі або адзін вялікі комікс у мяккай вокладцы, але прапануюць заўсёды толькі адзін сінгл.

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

# Памяць сям'і ў радках паэмы

У 2013 годзе да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пабачыла свет паэма Алеся Казекі «Марыйка». Маці паэта, Марыя Восіпаўна, засталася жывая ў дзень гібелі вёскі Боркі 15 чэрвеня 1942 года. Для дзяўчыны (Марыйкі) трагедыя назаўжды стала мяжой, падзяліла жыццё на «да» і «пасля».

Раніцай вёску Боркі акружылі карнікі. Яны заходзілі ў хаты, без тлумачэнняў расстрэльвалі людзей, потым спалілі ўсе вясковыя дамы. Цудам выжылі толькі 23 чалавекі.

Цётка паэта разам з дзецьмі была спалена ў сваёй хаце. У гэты дзень Марыя ішла да сястры Вольгі, каб застацца ў яе, але немец, які стаяў у ачапленні, не пусціў дзяўчыну і тым самым ўратаваў ёй жыццё. Памяць пра страту родных Марыя Восіпаўна пранесла праз усё жыццё і неадночы дзялілася ўспамінамі з сынам.

Паэма «Марыйка» — гэта паэтычнае асэнсаванне рэалій мінулай вайны, пабачанай вясковай дзяўчынай, якая засталася жыць, але страціла ўсіх сваіх родных. Пранікліва гучыць малітва, якая завяршае паэму:

*«Ойча наш!*
*І на сэрцы цяплее,*
*І малітва мацнее ў душы,*
*І заранак жыцця палымнее,*
*І зліваюцца ў Слове надзеі:*
*Божа, Людзі Твая зберажы!»*

«Марыйка» — паэма-рэквіем усім спаленым.

«Мы не можам дакладна ведаць, што будзе заўтра, але сваімі паводзінамі, сваім жыццём чалавек канструюе будучыню, — разважае Алесь Казека. — Дзеянне вызначае вынік. Гэта закон сусвету. Таму праблемы рознага маштабу нельга вырашаць праз зло. Гэта бесперспектыўны, тупіковы напрамак. Канструктыўным і жыццяздольным з'яўляюцца толькі дабро, любоў, добразычлівасць».

**Ірына АЛЕЙНІКАВА**

# Тое, што застанецца

**«Навошта ты тут? Для чаго? Каму патрэбны?» — такімі пытаннямі задаюцца героі прозы Уладзіміра Мажылоўскага.**

Браслаўшчына — неверагодна прыгожы край, маляўнічыя мясціны… І дзе ж, калі не тут, адбываецца цудам, пра якія распавядае У. Мажылоўскі. Памятаеце, у дзяцінстве ноччу ля вогнішча расказвалі жахлівыя гісторыі? Пасля мы разумелі, што так не бывае, але па прачытанні твораў Уладзіміра Мажылоўскага адчуванне рэальнасці захоўваецца надоўга. «Я быў там, у мінулым…» — сцвярджае адзін з герояў Мажылоўскага, і яму верыш.




Кніга «Праклён мітрапаліта Феафіла» складаецца з трох аповесцей. Але, нягледзячы на тое, што кожная з іх — асобны твор, гэтае выданне сапраўды цэласнае і неверагодна захапляльнае, а самая незвычайная ў ім — аповесць «Праклён мітрапаліта Феафіла».

Сюжэтныя лініі твора пераплятаюцца так, што можна ўмомант апынуцца ў іншай сітуацыі і з іншымі героямі. А гэта трымае ў напружанні, прымушае думаць пра тэкст, сачыць за падзеямі, каб не згубіць штосьці важнае. Па-другое, героі. Усе ж чулі пра Барбару Радзівіл? Дык вось, яе тут няма! А няма менавіта таму, што пачута і напісана пра яе ўжо вельмі шмат. Прыгожая і сумленная княжна Алена — вось новая гераіня! Па-трэцяе, дэталі. «Кавалкі лёду» ў вачах ганца (так хочацца назваць яго Каем!), «карункі сняжынак» і «малочнае неба» — усё робіць аповесць неверагодна смакавітай. Па-чацвёртае, выслоўі. Трапныя, змястоўныя і цікавыя.

Героі прозы Мажылоўскага — гэта барацьбіты за праўду, шукальнікі шчасця і справядлівасці, тыя, хто бароніць штосьці няўлоўнае — «незразумелае, па-іншаму "сваё"».

Вартасці кнігі можна пералічваць бясконца. Чытанне сапраўды захоплівае і зачароўвае. «Усё ў свеце зменліваe», — кажа аўтар, але нешта застанецца нязменным. І гэта — гісторыя. Часам дэталі могуць змяніць змест ці надаць яму новы сэнс. Але «гісторыю нельга скажаць дзеля ідэі», якой бы гэта ідэя не была.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Паэзія з водарам кавы

**У сталічнай кавярні «Бітлджус» адбыўся творчы вечар маладой паэтэсы Матэ Лакіата «Уласны Макондa». Яна чытала свае вершы, распавядала гісторыі з жыцця і гісторыі напісання ўласных твораў, адказвала на пытанні слухачоў.**



Матэ Лакіата — заснавальніца творчага праекта «Літкавярня», фатограф, мастачка, не вядомая пакуль шырокай публіцы. Падчас вечарыны яна быццам прачыніла дзверы ў таямніцы творчых пошукаў.

## ПСЕЎДАНІМ

— Я сядзела ў рэстаране з сяброўкай і папрасіла афіцыянта прынесці мне матэ лакіата. Мела на ўвазе латэ макіата, але перабблытала назву. А праз колькі гадоў прыгадала гэты выпадак і стала Матэ Лакіата.

## ФОТА

— Я рэпартажны фатограф. Здымаю канцэрты, прыроду… Калі ж здымаю людзей, то ў першую чаргу звяртаю ўвагу на вочы. Я вельмі люблю здымаць твары і вочы, іх выраз. На адзін прадмет чалавек проста глядзіць, у іншы — пільна ўглядаецца. Сантыметр адлегласці — і стаўленне да прадмета ўжо зусім іншае. Паэзія — тое самае.

## НАТХНЕННЕ

— Шукаю яго ў людзях. Калі браць фатаграфію, то я не люблю партрэт, асабліва пастановачны. Я люблю ўсё жывое. Працую і як дызайнер. Апошнім часам пісала і прысвячала вершы аднаму паэту. Імя прынцыпова не называю, але яго асоба і творчасць сапраўды натхняюць.

## ПАЧАТАК

— Самая першая мая творчасць пачалася ў 9 гадоў — вершыкі пра вазу, пра ружу… Наогул, вершы для мяне — сублімацыя, адзін са спосабаў выказаць, што я хачу зрабіць. Калі не магу сфатаграфаваць, апісваю гэта словамі. Атрымліваецца гэткая вербальная карціна. У юнацтве я не малявала, а пісала вершы. Але калі мне цяпер даць мальберт, палатно — пайду ў поле маляваць пейзаж. І не трэба будзе ніякіх вершаў.

## АДУКАЦЫЯ

— У 2007 годзе паступіла ў Інстытут сучасных ведаў. Але мне там не спадабалася: не выкладалі французскую мову. Правучыўшыся тры месяцы, інстытут кінула. Цяпер у глыбіні душы крыху шкадую, але мне гэта не замінае. На наступны год паступіла ў МДЛУ, дзе правучылася больш як два гады… З некаторымі выкладчыкамі кантактую дагэтуль.

## «ЛІТКАВЯРНЯ»

— Аднойчы я вырашыла арганізаваць праект і пачала шукаць самадзейных паэтаў у сацыяльнай сетцы «Вконтакте». Шукала па сумесных групах, розных праектах, звязаных з паэзіяй, уводзіла розныя хэштэгі. Праект пачаў дзейнічаць два гады таму, у мой дзень нараджэння — 24 чэрвеня. Ёсць некалькі паэтаў, якім я такім чынам дапамагла.

## «УЛАСНЫ МАКОНДА»

— Гэта вечар аднаго паэта, ніякага вольнага мікрафона, ніякіх гасцей а-ля «давай я пакажу, як трэба чытаць». Макондa — прыдуманае месца з маёй любімай кнігі «Сто гадоў адзіноты» Габрыэля Гарсія Маркеса. Таму большасць вершаў — сумныя, пра адзіноту і каханне.

## ПАПУЛЯРНАСЦЬ

— Я не папулярная. На вечар прыйшлі мае сябры, людзі, з якімі кантактую па 10 гадоў. Апошнім часам іх становіцца ўсё менш. Можа, трэба было напісаць на афішы сваё сапраўднае імя: маўляў, добры дзень, я паэт. Але тады магло сапсавацца ўражанне пра тое, што я сур'ёзна стаўлюся да дзвюх сваіх прафесій.

## МЭТА ТВОРЧАСЦІ

— У мяне ёсць пэўная місія. Не магу рабіць нешта толькі таму, што «так трэба». Пацешыцца, выйсці на сцэну, прагугніць штосьці ў мікрафон, паскакаць да столі — і мэта быццам бы дасягнута. Аднак мяркую, што ёсць мэта, якой я пакуль не разумею, але калі-небудзь яна ўвасобіцца ў штосьці вербальнае. Я пішу, і, магчыма, мая творчасць змяняе чыёсьці жыццё. Гэта добра. Уласна мэта — паўплываць на чалавека, на яго розум, свядомасць, пачуцці, каб ён штосьці ў сабе стварыў, перамяніў або зразумеў.

**Анастасія МЕЛЕХАВА, фота аўтара**

# Ці модна сёння чытаць?



Калі ў сакавіку ў Навагрудку праходзіла ўрачыстае адкрыццё Года моладзі, у Доме культуры было шматлюдна. Гасцямі свята сталі студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, якія ў межах рэалізацыі праекта «Універсітэт — твой крок у будучыню» правялі на Навагрудчыне тры дні і бралі ўдзел у розных мерапрыемствах. Яны ж сталі актыўнымі рэспандэнтамі пісьмовага бліц-апытання моладзі «Чытаць — гэта модна?», якое Навагрудская раённая бібліятэка праводзіла перад пачаткам мерапрыемства каля маладзёжнай выстаўкі-арбіты «Чытаць — гэта модна, прэстыжна, актуальна».

Паводле адказаў, 59,6 працэнта рэспандэнтаў бавяць вольны час за чытаннем — гэта іх любімы занятак. Не вельмі актыўнымі прыхільнікамі друкаванага слова лічаць сябе 29 працэнтаў апытаных. Нягледзячы на тое, як сябе пазіцыянуюць маладыя людзі, усе яны бяруць у рукі кнігу. Традыцыйныя выданні на папяровых носьбітах пераважаюць — 65 працэнтаў, электронныя — 30, аўдыякнігі — 5 працэнтаў.

Падчас апытання не ўсе былі заняты чытаннем. Амаль 10 працэнтаў рэспандэнтаў адказалі, што цяпер не чытаюць. Астатнія з кнігамі сябруюць. Наш малады сучаснік выбірае розных аўтараў. У іх ліку — «Тарас Бульба» Гогаля, «Пунсовыя ветразі» Грына, «Герой нашага часу» Лермантава, «Майстар і Маргарыта» Булгакава, «Забіты пад Масквой» Вараб'ёва, «Усімі праўдамі і няпраўдамі» Фамічова, «Кашуля» Грышкаўца, «Запіскі пра Шэрлака Холмса» Конан Дойла, «Адрынутыя» Гюго, «Жыццё Пі» Мартэла, «Атлант расправіў плечы» Рэнда, «Гары Потэр» Роўлінг…

Наконт любімага літаратурнага героя некаторыя з апытаных ці пажартавалі, ці проста не паспелі пасталець. Пра гэта сведчаць адказы, накшталт Чыпаліна, Кот Матроскін, Паштальён Печкін, Карлсан і да т. п. Так што па вялікім рахунку марныя аказаліся пакуль нашы намаганні ў пошуку любімага моладззю літаратурнага героя, альбо, калі казаць іншымі словамі, героя нашага часу. 17 працэнтаў апытаных увогуле не маюць літаратурных куміраў. Некаторыя не перайmaліся і проста назвалі прозвішчы пісьменнікаў — М. Танка, С. Ясеніна, А. Грына.

Можна было б засумнявацца ў шчырасці заяў рэспандэнтаў пра іх цягу да чытання. Аднак 60 працэнтаў станоўчых адказаў, дадзеных па сутнасці апытання, пацвярджаюць праўдзівасць выказванняў. Тыя, хто чытае, выбралі Гары Потэра, Анегіна, Рамэа. Нязначную колькасць галасоў набралі літаратурныя героі класічных твораў — Джульета, Пячорын, Наталля Ганчарова, Асоль, Раскольнікаў, Гамлет і нарэшце Шэрлак Холмс.

Такім чынам, сённяшняя моладзь — чытае!

**Фаіна МАЛЮЖЭНЕЦ,**

**загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Навагрудскай раённай бібліятэкі**

*Мецэнаты*

# Мастацтва патрабуе вялікіх сродкаў

**Сучасныя мецэнаты не надта ахвотна выступаюць у прэсе, але для «ЛіМа» вядомы расійскі калекцыянер Аляксандр Шадрын зрабіў выключэнне.**



Фота з сайта shum.ru.

**— З чаго пачалася ваша калекцыя?**

— Я некалі збіраў маркі, потым жывапіс. Скончыў біяфак, і ў мяне была добрая калекцыя раслін. Потым падарыў яе ўніверсітэту. Але выйсці на сур'ёзны ўзровень калекцыянавання мне дазволілі вольныя грошы. Я заўсёды кажу, што мастацтва патрабуе вялікіх сродкаў. Калі ў вас іх няма, вы проста не зможаце развівацца. Але кожнае ўкладанне ў культуру, у мастацтва апраўдваецца. Не адразу, праўда, з цягам часу. Я ў прынцыпе пра гэта не думаю. Але калі з'явіліся грошы, набыў калекцыю ўральскіх мастакоў. Чаму? Нехта купляе машыны, нехта — нерухомасць, а нехта — творы мастацтва. Праз два гады зразумеў: гэта не тое, што мне трэба. І раздарыў яе ў розныя музеі на Захадзе. Зрабіў падарунак Міністэрству культуры Польшчы, музею мастацтваў Румыніі, нацыянальнаму музею Вугоршчыны.

**— Ваша калекцыя — чацвёртая ў свеце па колькасці работ Далі. А якім чынам у вас з'явіліся творы Далі і Пікаса?**

— У мяне заўжды было правіла: калі мастак жывы, трэба браць у яго або ў таго, з кім ён працаваў — то бок у самага блізкага кола, а не з галерэй. Па-першае, ты не сумняешся ў арыгінальнасці работ. Па-другое, атрымліваеш вельмі шмат інфармацыі. Спачатку на мяне працаваў Альберт Бедаму, вядучы спецыяліст французскага ўрада па сучасным мастацтве. З яго дапамогай я выйшаў на Бенджаміна Ляві. Гэта былы юрыст Далі. Ляві належаць парыжскія музеі Далі, венецыянская галерэя, лонданскі музей. А потым ужо на Пікаса выйшаў, на Мадуру, на спадчыннікаў. Для мяне прынцыпова мець самую лепшую інфармацыю, самую аб'ектыўную. Я пазнаёміўся нават з кухаркай, якая працавала ў Далі, з яго конюхам, са служкамі — я іх усіх ведаю. Дарэчы, пра Далі. Тое, што вядома, — гэта, можа, адна тысячная частка той інфармацыі, якой я валодаю…

**— Як вам падаецца, што такое геніяльнасць?**

— Геніяльнасць нельга ацаніць пры жыцці мастака. Гэта можна зрабіць толькі праз некалькі пакаленняў. Увогуле, геніяльнасць палягае ў тым, каб убачыць у штодзённым тое, чаго іншыя не бачаць, стварыць тое, што не пад сілу іншым. Калі ўзяць Далі і Пікаса, хто з іх больш геніяльны? Я мяркую, што Пікаса. Чаму? Таму што ён стварыў цэлы накірунак — кубізм. А Далі — гэта адзін з сюррэалістаў, адзін з многіх. І калі б не было такой асобы, як Гала, то ён бы не стаў Далі. І пры гэтым Далі ўсё жыццё даводзіў усім сваю геніяльнасць, Пікаса ніколі гэтага не рабіў. Ён проста ведаў, што геніяльны.

**Юлія САВІЦКАЯ**

# Сяброўскі шарж мінулага стагоддзя

Адыходзіць час, які звязвае мінулае з будучым… Асабліва гэта тычыцца аператыўных сродкаў мастацкай графікі газетных і часопісных палос 1920-х гадоў, што паступова знікаюць у архівах ці выкідаюцца з макулатурай.

Унікальная старонка сатыры — творы дзеяча рэвалюцыйнага руху мастака-аматара Панцеляймона Лепяшынскага (1868 — 1944) у газеце «Звязда» (1928). Аўтар звяртаўся да гісторыі палітычнай барацьбы з меншавікамі, эсэрамі, бундаўцамі. Найбольш вядомы яго лубок «Як мышы ката хавалі», дзе адлюстраваны У. Ленін і яго палітычныя апаненты.


Пётр Сергіевіч «Шарж на Максіма Танка», папера, вугаль, сангіна.

Моцнымі і выключна паслядоўнымі былі сябры творчага аб'яднання «Прамень» (1927 — 1930): А. Ахола-Вало, П. Гуткоўскі, Ф. Выхадцаў, Я. Разанаў, Г. Змудзінскі ды інш. У раздзелы агітацыі і прапаганды ўваходзілі крытычныя шаржы, гратэск, замалёўкі з жыцця на тэмы дрэнных дарог, хабару, працы, адпачынку і інш. Тэма выхавання — асноўная для творчасці, дзе галоўны герой — адмоўная асоба. З'яўляліся цэлыя рубрыкі з карыкатурамі на гультаёў, чыноўнікаў, п'янчуг і г. д.

Янка Разанаў — мастак газеты «Рабочий», вучань Варшаўскай мастацкай школы — маляваў сяброўскія шаржы на К. Крапіву, У. Дубоўку, цудоўныя партрэты Л. Александроўскай, С. Міхаэлса. Яго сатырычныя малюнкі ўпрыгожвалі старонкі гумару газеты «Савецкая Беларусь» (1925 — 1929). Я. Разанаў ілюстраваў сатырычныя вобразы бюракратаў, прафактывістаў, аматараў дыскусій. Там жа друкаваліся малюнкі Б. Дзяйсніцкага, ілюстрацыі Г. Кіпніса.

Павел Гуткоўскі — мастак часопіса «Маладняк» — нарадзіўся ў вёсцы Забела Слуцкага раёна, меў добрую падтрымку ад брата Міколы — навуковага сакратара ІБК. Зягодапамогай была зарэгістравана суполка «Прамень» у Наркамасвеце і складзены яе статут. Мастак спалучаў ідэі класіцызму з супрэматычнымі формамі. Алегорыяй працы савецкага чалавека ўспрымаецца сёння вобраз аголенага рабочага, што выбівае на пяціканечнай зорцы імя правадыра: Ленін. Уводзіліся ў гэтыя рамантычныя пейзажы народныя паясы з нацыянальным арнаментам, сцягі з надпісам «РКП» у руках рабочых.

Асобная старонка беларускага сяброўскага шаржа 1920-х — творы Янкі Кашкеля — аўтара шаржаў на вядомых дзеячаў культуры, кіраўнікоў дзяржавы, камандуючых — Я. Купалы, Я. Коласа, Я. Лёсіка, З. Бядулі, А. Чарвякова, М. Галадзеда, Я. Лёсіка, В. Кнорына.

Фёдар (Тодар) Выхадцаў (1902 — 1941) нарадзіўся ў Сандаміры (Польша), скончыў Маскоўскае кадэцкае вучылішча, Маскоўскія вышэйшыя курсы музеязнаўства, вучыўся там у мастацкай студыі. У 1937 годзе скончыў Вышэйшыя завочныя музейныя курсы. Удзельнік рэспубліканскіх выставак (1928, 1931, 1932 гг). Сатыра Ф. Выхадцава друкавалася ў «Чырвонай Беларусі» (1930).

На старонках «Савецкай Беларусі» (1930) — сатырычныя малюнкі маладых выхаванцаў Віцебскага мастацкага тэхнікума. Так, у «Чырвонай Беларусі» — малюнкі А. Заборава «Аб'ектыўныя прычыны» і «Раёны чакаюць», М. Пашкевіча «Бацька і сын узялі рамізніка», на старонках «ЛіМа» — сяброўскія шаржы Г. Дакальскай. Графік Р. Семашкевіч ілюстраваў апавяданні пра жыццё жыхароў Сярэдняй Азіі ў «Беларускім піянеры». Часам у перыёдыцы друкаваліся жартоўныя малюнкі і накіды навучэнцаў Віцебскага мастацкага тэхнікума — Г. Паўлоўскага, Г. Ізмайлава, І. Давідовіча. Мастакі з рознай прафесійнай падрыхтоўкай шчыра і эмацыянальна адгукаліся на падзеі пераломнага перыяду. Жывапісцы і скульптары М. Філіповіч, В. Волкаў, І. Ахрэмчык, З. Азгур ілюстравалі літаратурныя творы ў часопісе «Чырвоная Беларусь» у выглядзе вольных накідаў з выявамі галоўных персанажаў, а таксама ўводзілі ў афармленне шрыфтавыя кампазіцыі. Іх працы — узор выключнай мастацкай свабоды і вобразнай лаканічнасці.

Мастацкі рэдактар Барыс Малкін (1908 — 1972) выявіў выключны талент малявальшчыка-графіка, росчыркам пяра ствараючы непаўторныя вобразы пісьменнікаў, сацыяльных тыпаў. Графікі А. Бразер і Г. Змудзінскі мелі звычку маляваць на пасяджэннях вядомых дзяржаўных дзеячоў. Дарэчы, сяброўскі шарж на Г. Змудзінскага (аўтар М. Малевіч) адпавядае ўсім канонам. Перш за ўсё — гэта інтэлігент у капелюшы з гальштукам на шыі і цыгарэтай у роце, а за вухам — вялікі аловак — сімвал працы мастака-крытыка.


Мікалай Малевіч «Шарж на Генадзя Змудзінскага» з серыі «Карыфеі беларускага пэндзля».

Вядомы мінскі творца Якаў Кругер маляваў сялян, дэлегатаў, рабочых і нават палітычных асуджаных на судовых працэсах. Аляксандра Ахола-Вало (1900 — 1997) прафесійны вопыт назапашваў у майстэрнях Віцебска, Адэсы. Яго гумарэскі, карыкатуры,гратэскныякампазіцыіпублікаваліся ў «Беларускай работніцы і сялянцы», «Беларускай вёсцы», «Беларускім піянеры», «Савецкай Беларусі», «Маладым аратым», «Дубінцы». Былі нават кампазіцыі, якія аўтар змог выдаць асобна — ужо ў перабудовачны час: «Яўрэі моляцца на Свіслач», «У хаце селяніна», «За дапамогай».

У 1927 годзе Зміцер Жылуновіч падвёў першыя вынікі дзейнасці беларускага друку, у выніку чаго былі вызначаны два напрамкі дзейнасці творцаў: нацыянальна-незалежніцкі і савецка-марксісцкі. Але ўжо ў 1932 годзе графіка, як і іншыя мастацкія ўпрыгожванні і агітацыя, знікаюць з друку.

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**Яўген ШУНЕЙКА**

# Падводны ілюзіён

Зазірнуць у сон веліканаў, пабачыць дом на краі, пазнаёміцца з іншапланетным госцем, закруціць думкі ў дзве каляровыя спіралі, а потым наматаць іх на рулон лакальнай хронагісторыі — усё гэта, аказваецца, цалкам рэальна. Выстаўка Уладзіслава Куфко «Кот у акварыуме» амаль два тыдні здзіўляе гасцей Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.

Мастак умее супастаўляць супярэчлівыя вобразы і з'явы, выбудоўваць нечаканыя, але на дзіва гарманічныя кантрасты. Рыбкі, падобныя на фіялетава-сіні феерверк, выскокваюць са шкляных сцен акварыума. Таямнічая касмічная істота прарываецца ў нашу рэальнасць, разламваючы імправізаваную белую сцяну. Яркія міражы, падобныя на паўночнае ззянне, запаўняюць чорную прастору водблескамі святла. Эмацыянальныя, іранічныя і вострыя метафары зразумеюць толькі ўважлівыя і чуйныя гледачы.


«Рулон лакальнай хронагісторыі».

Некаторыя карціны спалучаюць па-майстэрску ўвасобленыя формы і замалёўкі, выкананыя як быццам дзіцячай рукой, — так, побач з чалавечкамі і смайлікамі «гняздуюцца» важныя рыбы, прабіваючыся праз цагляную сцяну.

Рэалістычнага пухнатага ката ў акварыуме ніхто не ўбачыць — можна толькі выказаць здагадку: што будзе, калі ён там з'явіцца? Кот у акварыуме — матэрыя, якая можа набываць і змяняць, у залежнасці ад фантазіі назіральніка, розныя ўласцівасці.

На выстаўцы размясціліся і скульптурныя работы аўтара, не менш цікавыя, чым карціны. Лепкай Уладзіслаў Куфко стаў займацца нядаўна, але дэманструе вялікія поспехі. Скончаную форму экспазіцыі надалі інсталяцыі — сцяжынкі з кавалкаў люстэрка альбо чорны сачок на падлозе. Як кажуць, сапраўдны майстар вынаходлівы ва ўсім.

На адкрыцці выстаўкі старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца зазначыў, што Уладзіслаў Куфко ўмее ствараць сапраўднае свята мастацтва, дзе б ні прадстаўляў свае карціны. «Гэты мастак сам выбраў мову, на якой размаўляе ў творчасці, і яна ўнікальная. Вельмі выразная аўтарская пазіцыя Уладзіслава Куфко дазваляе яму быць па-за межамі канкурэнцыі», — дадаў Рыгор Сітніца.

Паводле калег і мастацтвазнаўцаў, Уладзіслаў Куфко не імкнецца камусьці дагадзіць, паказацца модным, а проста робіць сваю справу, дарэчы, вельмі сучасную, рытмічную, авангардную. Ён дакладна разумее колер, не баіцца розных фарматаў і парадаксальных тэм, стварае з плоскіх палотнаў кампазіцыі, якія можна з упэўненасцю назваць трохмернымі.

Сам мастак прызнаецца, што ўсе творы, якія ўвайшлі ў выстаўку «Кот у акварыуме», — гэта «фрагментарны прадольны зрэз» яго жыцця. «Вы бачыце работы самых розных перыядаў: як трыццацігадовай даўнасці, так і зусім новыя», — прызнаецца Уладзіслаў Куфко.

Дарэчы, ён не любіць тлумачыць сэнс сваіх палотнаў, робячы іх адназначнымі. Так што гледачам прадстаўляецца абсалютная свабода разумення і ўспрымання.


«Тэатр двух слімакоў».

Уладзіслаў Куфко нарадзіўся і жыве ў Брэсце. Яшчэ не дасягнуўшы дваццацігадовага ўзросту, стаў актыўна ўдзельнічаць у мастацкіх выстаўках. Умее працаваць ў галіне станковага жывапісу, жанрах партрэтаў і нацюрмортаў. Яго карціны экспанаваліся як на радзіме, так і ў іншых краінах, у прыватнасці Галандыі, Германіі і ў Польшчы. Уладзіслаў Куфко — уладальнік шматлікіх узнагарод і званняў: «Чалавек года ў галіне выяўленчага мастацтва» Беларускага фонду культуры (2000), медаля «За заслугі ў выяўленчым мастацтве» Беларускага саюза мастакоў (2005) і іншых.

Падчас адкрыцця выстаўкі ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва было праанансавана яшчэ адно важнае мерапрыемства. У траўні наступнага года, па словах Рыгора Сітніцы, чакаецца адкрыццё маштабнай усебеларускай выстаўкі «Аб'ект як мастацкі твор» у Палацы мастацтва, дзе Уладзіслаў Куфко, магчыма, таксама прадэманструе сваё майстэрства.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Гістарычнае люстэрка

**«Памяць палаючых гадоў» — пад такой назвай Нацыянальная бібліятэка Беларусі размясціла ў інтэрнэце свае алічбаваныя калекцыі, прысвечаныя 70-годдзю Вялікай Перамогі. Юбілейны праект, не прэтэндуючы на паўнату звестак па заяўленай тэме, дае магчымасць убачыць гісторыю Вялікай Айчыннай вайны праз тагачасныя кнігі і перыёдыку, лістоўкі і рукапісныя матэрыялы, асабістыя і службовыя паперы, плакаты і насценгазеты, фатаграфіі і песні.**




*Кніжка-гармонік.*

У аснове праекта — матэрыялы электроннага дыска «Падпольны і партызанскі друк Беларусі» (3-е выд., дапоўн., 2015), створанага галоўнай кніжніцай краіны сумесна з Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь і Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Пры гэтым структура новага інтэрнэт-рэсурсу значна пашырана, а змест дапоўнены новай алічбаванай інфармацыяй з уласных фондаў.

Алічбоўка і публікацыя ў адкрытым інтэрнэт-рэсурсе дазваляе зрабіць здабыткам грамадскасці разнастайную друкаваную, а таксама рукапісную перыёдыку беларускіх падпольшчыкаў і партызан, увесці ўсе экзэмпляры ў навуковае карыстанне. Сёння яны яшчэ недасканала вывучаны з-за дрэннай захаванасці і раскіданасці па розных сховішчах.

Першыя падпольныя выданні — лістоўкі і звароты да суайчыннікаў, якія шмат спрыялі выкрыванню акупацыйнага рэжыму, праслаўленню подзвігаў герояў, пашырэнню партызанскага руху, мабілізацыі сіл беларускага народа на барацьбу з фашысцкімі захопнікамі. У праекце прадстаўлены электронныя копіі 140 лістовак і лістовак-плакатаў, выдадзеных у 1942 — 1944 гг. Лозунг большасці з іх — «Смерць нямецкім акупантам! Прачытай і перадай другому».

На акупіраваныя беларускія землі было накіравана 167 паходных друкарскіх машын. Партызаны Карпілаўкі (купалаўскія Акопы, радзіма Ядвігіна Ш.) маскіравалі тэхніку ў лесе так, што нават падчас блакады партызанскай зоны ўвесну 1943 г. фашысты не змаглі яе выявіць.

Праект змяшчае электронныя копіі больш як 500 нумароў (каля 100 назваў) газет з інфармацыяй пра Беларусь, выдадзеных у 1941 — 1945 гг. на тэрыторыі краіны і за яе межамі. Аднымі з самых вядомых сталі газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну!», рэдактарам якой з 1943 г. быў К. Крапіва, і сатырычны лісток «Партызанская дубінка». Аўтарскі калектыў складалі вядомыя беларускія пісьменнікі Якуб Колас, Янка Купала, К. Чорны, П. Броўка, П. Глебка, М. Танк, В. Вітка і інш. У падрыхтоўцы нумароў, разам з беларускімі мастакамі, такімі як М. Гурло, М. Гуцiеў, З. Азгур і інш., актыўны ўдзел бралі маскоўскія і ленінградскія графікі: Кукрыніксы, Л. Брадаты, Б. Яфімаў… Акрамя таго, у кожным партызанскім атрадзе працавалі мастакі-самавучкі, сярод іх былі і вельмі здольныя, прынамсі, В. Букаты, чыё нядоўгае, але геройчнае жыццё і творчасць звязаны з гісторыяй партызанскага друку.



*Партызанская сям'я: Рыдлеўскі са сваімі дочкамі.*

Адметнымі матэрыяламі праекта сталі кішэнныя выданні — кніжачкі ў форме гармоніка з малюнкамі і подпісамі. Знешне падобныя на дзіцячыя, яны змяшчалі інфармацыю першачарговай неабходнасці: як знішчаць ворага, як маскiравацца, каб застацца ў жывых. Некаторыя з іх выходзілі пад рэдакцыяй дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра.

У «Блакнотах агітатара» друкаваліся паведамленні Савінфармбюро, даклады П. Панамарэнкі пра партызанскую вайну, загады і ўказы аб узнагароджанні партызан, іх камандзіраў, перадавыя артыкулы газеты «Праўда», рэпартажы з судовых працэсаў аб зверствах фашыстаў… Матэрыялы «Блакнотаў» узрушваюць да глыбіні душы.

У фондзе Нацыянальнай бібліятэкі захоўваюцца і рукапісныя партызанскія матэрыялы. Ствараючы карыкатуры на фашысцкіх захопнікаў, памфлеты і сатырычныя вершы, партызаны станавіліся «народнымі мсціўцамі» не толькі ў баях, але і ў творчасці. Па некаторых дадзеных, у партызанскіх атрадах выходзіла 3750 рукапісных газет, часопісаў, насценгазет. На жаль, да нас дайшлі лічаныя адзінкі — тым большую гістарычную каштоўнасць яны ўяўляюць.

Праект таксама змяшчае дакументы, дзе праз строгую мову службовых папер раскрываюцца важныя старонкі біяграфій. Можна «пагартаць» чырвонаармейскія кніжкі, азнаёміцца з падзякамі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага героям Перамогі за мужнасць, праяўленую ў баях, фарсіраванні рэк, вызваленні беларускіх і замежных гарадоў.

У раздзеле «Ваенны фотаальбом» прадстаўлены фатаграфіі некаторых герояў, адзначаных падзякамі. На старых здымках — партызаны і байцы падчас баёў, у кароткія моманты адпачынку… Асобная частка калекцыі адлюстроўвае Мінск напярэдадні вайны, разбураны фашысцкімі захопнікамі, і працэс аднаўлення беларускай сталіцы.

Раздзел «Плакаты» ўключае створаныя ў 1943 — 1990 гг. творы такіх вядомых беларускіх мастакоў, як М. Гуцiеў, Г. Паплаўскі, М. Стома і інш., якія праслаўляюць сілу і мужнасць арміі і народа. З канца 1942 г., пасля карэннага пералому ў вайне, з'яўляецца парадны партрэт воіна-партызана-пераможцы. Так, М. Гуцiеў у плакаце «Білі, б'ём і будзем біць!» прадугадаў створаны А. Твардоўскім вобраз Васіля Цёркіна. Размясціўшы героя ў цэнтры, мастак намаляваў вакол яго эпізоды партызанскіх баявых аперацый.

Мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў, надрукаваныя ў 1941 — 1945 гг., можна ўбачыць у раздзеле «Творы пра вайну». Выданні невялікага фармату, сціпла афармленыя, распавядаюць пра вайну як нацыянальную трагедыю. У падборцы сабрана паэзія, проза, публіцыстыка: зборнікі і асобныя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, П. Броўкі, П. Глебкі, В. Віткі, А. Куляшова, П. Панчанкі, М. Танка, К. Крапівы, М. Лынькова, К. Чорнага… Большасць кніг надрукавана на Вялікай зямлі ў беларускім выдавецтве «Савецкая Беларусь», якое пераехала ў тыл.

У раздзеле «Песні вайны» прадстаўлена 40 музычных твораў. Палова гуказапісаў зроблена ў 1941 — 1945 гг. з характэрнай для таго часу аранжыроўкай, манерай выканання. Другая частка — пасляваенныя песні, у тым ліку творы такіх кампазітараў і паэтаў, як У. Алоўнікаў, І. Лучанок, Л. Захлеўны, Э. Ханок, А. Вярцінскі, А. Русак, М. Ясень…

Для інтэрнэт-праекта распрацаваны асобны сайт *http://old.nlb.by/vov70* і праграмнае забеспячэнне, дзякуючы якому песні можна слухаць адразу са старонкі раздзела, кнігі — чытаць у зручным вэб-фармаце.

**Алена ЯКАВЕНКА,**
**загадчыца сектара**
**інфармацыйнай падтрымкі**
**інтэрнэт-партала**
**Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

# На радзіме Соф'і Гальшанскай

Анатоль Шнэйдэр нарадзіўся ў вёсцы Парэчча Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Пісьменніка заўсёды цікавіла мінулае свайго краю, жыццё славутых землякоў. У 1983 годзе ў выдавецтве «Беларусь» пабачыла свет кніга «Талачын. Гісторыка-эканамічны нарыс», якая паклала пачатак серыі прац па краязнаўстве. Новая кніга Анатоля Антонавіча — «Зямля над Друццю і Абалянкай» — працяг даследавання гісторыі малой бацькаўшчыны.

Праца ўражвае грунтоўнасцю, аб'ёмам гістарычнага матэрыялу і ў той жа час сцісласцю і лаканічнасцю. Пад адной вокладкай змясцілася гісторыя Талачынскай зямлі ад старажытнасці да сучаснасці. Кніга складаецца з пяці раздзелаў, якія прысвечаны гістарычнаму мінуламу і знакамітым ураджэнцам краю.

У свой час з Талачыншчынай былі цесна звязаны многія значныя грамадскія дзеячы. Гісторыя краю распачынаецца расповедам пра адну з самых славутых жанчын славянскай зямлі, заснавальніцу вялікакняжацкай і каралеўскай дынастыі Ягелонаў Соф'ю Друцкую (Гальшанскую).

Талачынская зямля — малая радзіма многіх таленавітых людзей, памяць пра якіх захоўваецца не толькі на Беларусі. Так, просты хлопец з Талачына, вядомы пад псеўданімам Ірвін Берлін, стаў нацыянальным героем ЗША, яго пяру належыць нацыянальны гімн «Божа, блаславі Амерыку». Нельга не ўспомніць і вядомых беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, даследчыкаў, жыццё якіх цесна звязана з талачынскай зямлёй. Гэта Міхась Зарэцкі, Вера Вярба, Алесь Петрашкевіч, Міхаіл Савіцкі...

Выклікае цікавасць і паходжанне назвы Талачын. Існуе некалькі меркаванняў на гэты конт, і пра кожнае можна даведацца са старонак «талачынскай энцыклапедыі» Шнэйдэра. Не мог аўтар пакінуць па-за ўвагай геройчныя падзеі вайны 1812 года.

Анатоль Шнэйдэр распавядае і пра памятныя мясціны Талачыншчыны, праводзіць па іх віртуальную экскурсію.

**Ганна КУРМАН**

# Адзінаццаць «фішак» кніжніцы

**Бібліятэка № 1, адна са старэйшых дзіцячых кніжніц сталіцы, адчыніла дзверы шэсцьдзясят год таму. За гэты час шмат што змянілася, але з кожным годам папулярнасць установы і колькасць чытачоў толькі павялічваюцца. Сведчаннем гэтаму — шматлікія дыпломы і ўзнагароды. Напрыклад, другое месца ў штогадовым рэспубліканскім конкурсе «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры» ў намінацыі «За падтрымку і развіццё чытання».**




Мяшэчак з гісторыяй.

Як распавяла загадчыца Таццяна Аўсянёва, спачатку планаваўся адзін праект, але ў выніку распрацавалі дзесяць «фішак» для заахвочвання чытаннем. Першая — «Краязнаўчая зала як прасторавая інавацыя» — рэклама кніжнага фонду. У кутку беларускай літаратуры была прадстаўлена выстаўка «Задай пытанне аўтару». Дзеці пакідалі пытанні на стэлажах. І на сустрэчу запрашалі таго аўтара, які атрымаў больш за ўсё пасланняў. Так куток беларускай літаратуры прыцягвае ўвагу да фонду бібліятэкі, стымулюе цікавасць да іншых твораў.

Ёсць тут дзве гасцёўні. Першая — «Майго лёсу вытокі» — побыт, традыцыі і гісторыя продкаў. У другой гасцёўні «Мелодыя слова, подых радка» адбываюцца сустрэчы з пісьменнікамі, мастакамі, музыкантамі. Сюды завіталі Генадзь Аўласенка, Алена Масла, Уладзімір Мазго ды іншыя творцы.

Бібліятэка працуе з пісьменнікамі і ў пэўным сэнсе кідае ім выклік у межах кніжнага марафону «Букчэлендж». Сутнасць акцыі ў тым, што аўтар, які атрымаў выклік, павінен, седзячы на ўтульным падаконніку, чытаць дзецям свае кніжкі. Пачала марафон Таццяна Сівец, перадала эстафету Наталлі Бучынскай і гэтак далей. Такім чынам марафон працаваў на працягу ўсяго 2014 года. Па завяршэнні была створана фотастужка — своеасаблівая справаздача пра «Букчэлендж».

Яшчэ адной навінкай стаў віншавальна-кніжны праект «Дзень нараджэння з кнігай» для чытачоў ад трох да шасці гадоў. Супрацоўнікі кніжніцы падбіраюць цікавую літаратуру з рознымі конкурсамі і гульнямі для бацькоў, а кожны імяніннік атрымлівае ад бібліятэкі невялікі падарунак. Пасля дня нараджэння бацькі прыносяць фотаздымкі са свята. Жадаючых паўдзельнічаць у праекце назбіралася нямала, прызналася Таццяна Генадзьеўна.



Дзеці бяруць удзел у жывых квестах.

Для самых маленькіх — праект «Пяньковыя цікавосткі». Толькі літаратуру падбіраюць тут не для свята, а для мяшэчкаў, размешчаных на дрэве і на пяньку каля яго. Мяшэчак з маляўнічымі кнігамі можна браць дадому, потым вяртаць, браць іншы. Адметна, што ўся літаратура ў гэтым праекце на беларускай мове. Бацькі ў мяшэчках маглі знайсці спецыяльныя буклецікі з рэкамендацыямі, як чытаць, размаўляць, далучаць дзіця да твораў на роднай мове.

Супрацоўнікі кніжніцы сочаць і за моднымі тэндэнцыямі і знаходзяць новыя «фішкі». Сёрфінг-праект «Будзь у трэндзе», складаецца з дзвюх частак. Першая — трэнінгі: гульнявыя, па прафарыентацыі. Другая — інтэрнэт-урокі і казкатэрапія. Што да інтэрнэту, то на прыкладзе адной з казак серыі «Казкі XXI стагоддзя» бібліятэка зрабіла некалькі прэзентацый у выглядзе інтэрнэт-сайтаў. І стварыла ўласны комікс на беларускай мове па сюжэце народнай казкі «Ох і залатая табакерка». Сярод асаблівасцей кніжніцы і «жывыя» квесты па беларускай літаратуры. Спецыяльна для конкурсу супрацоўніца бібліятэкі Вольга Богук праводзіла квест па рамане Уладзіміра Караткевіча «Чорны замак Альшанскі».

«І гэта яшчэ не ўсё. На базе бібліятэкі ёсць прэс-клуб «За кампанію», які раз на квартал выдае маладзёжны часопіс «BookShelf» (кніжная палічка), — працягвае Таццяна Аўсянёва. — Яго ствараюць дзеці, мы дапамагаем толькі друкаваць. Яшчэ можам дадаць анатацыі ад бібліятэкараў пра літаратурныя навінкі. Дзеці пішуць пра свае ўражанні пасля мерапрыемстваў і прачытання кніг. Таксама мы змяшчаем у часопісе слоўнік малавядомых беларускіх слоў і тлумачым іх значэнне».

Творчая дзейнасць супрацоўнікаў кніжніцы прыносіць плён: сёння бібліятэку наведваюць каля 7000 чытачоў.

**Анастасія МЕЛЕХАВА,**
**фота аўтара**

*З нагоды*

# Тэатр без куліс

Лета, па прызнанні многіх дзяцей, — не самы лепшы час для чытання. Лагічна самой кнізе актывізавацца і «выйсці» туды, дзе адпачываюць хлопчыкі і дзяўчынкі, у нечаканай форме кніжнага арт-парада.

Вулічны тэатр «Жывая кніга» Бярэзінскай раённай бібліятэкі стаў навацыяй гэтага летняга сезона. Тэатр без куліс разгарнуўся на пляцоўцы ў цэнтры гарадскога сквера каля галоўнай бібліятэкі г. Беразіно. Гледачамі яго сталі выхаванцы аздараўленчых летнікаў горада, былі прадстаўлены лепшыя мастацкія творы беларускіх аўтараў пад дэвізам «Чытаем разам творы пра вайну».

Для тэатралізацыі абралі самыя пранікнёныя апавяданні: «Васількі» Міхася Лынькова, «Апошняя і першыя» Барыса Сачанкі, «За 100 км на абед» Івана Чыгрынава, «Жаніх і нявеста» Васіля Хомчанкі ды інш. Падчас тэатралізацыі як правіла агучвалася чатыры апавяданні, напрыканцы праводзіўся конкурс на самага ўважлівага слухача.

Вызначаны рэйтынг калектыўна «прачытаных» твораў. Найбольш бярэзінскай публіцы спадабаліся апавяданні Віктара Праўдзіна «Пяць цукерак ад Фрыца», Анатоля Майко «Цукерка з Вялікай зямлі», Віктара Улюценкі «Абпаленае дзяцінства», Андрэя Гершанкі «Вавярчаня» (з надрукаванага ў літаратурна-мастацкіх часопісах «Полымя» і «Нёман»).

На «ўра» прынялі тэатр ваеннага апавядання і выхаванцы раённага дзіцячага аздараўленчага лагера «Папараць-кветка». Як прызналіся пасля юныя бярэзінцы, чытаць улетку не так ужо і сумна.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзела маркетынгу**
**Бярэзінскай ЦБ.**

# Канцэрт для вяскоўцаў

Нядаўна ўдзельнікі народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь» Валожынскага раённага цэнтра культуры сумесна з работнікамі раённай бібліятэкі наведалі вёску Лоск.

Пакуль бібліятэкары рыхтавалі фармуляры і кнігі для выдачы, «рунеўцы» ўсклалі кветкі да помніка загінуўшым землякам. Гармонік удзельнік аб'яднання Станіслава Пупко і песні ў яго выкананні склікалі мясцовых жыхароў да месца сустрэчы — аўтобуснага прыпынку.

З задавальненнем слухалі вяскоўцы шчырыя паэтычныя радкі членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі Марыі Шакун і Валянціны Гіруць-Русакевіч, уласныя песні Станіслава Пупко і Галіны Філяноўскай. Галіна Іванаўна прапанавала прысутным свае жартоўныя творы.

**Валянціна АЛЯКСАНДРАВА**

# Суразмоўцы

Пры Жабінкаўскай раённай бібліятэцы больш як дзесяць гадоў працуе клуб «Суразмовец». Сябры яго — людзі сталага ўзросту, паядналыя любоўю да кнігі. На адно з пасяджэнняў да «суразмоўцаў» завітаў пісьменнік-зямляк Анатоль Брытун — аўтар рамана «Пах мускусу».

Прысутныя даведаліся шмат цікавага пра аўтара і яго твор. Напрыклад, летась у Брэсцкую мытню, дзе А. Брытун працуе старшым інспектарам, паступіла падзячнае пісьмо ад пасла Беларусі ў Францыі і пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ЮНЕСКА Паўла Латушкі. «Вельмі прыемна атрымаць кнігу на роднай мове пра Белавежскую пушчу, якая з'яўляецца для мяне асабіста адной з самых лепшых мясцін у свеце». Кнігу беларускаму дыпламату перадалі кіраўнікі Брэсцкай мытні падчас камандзіроўкі ў Францыю.

На пытанне, як з'явілася задума рамана і ўзнікла цяга да пісьменства, Анатоль Арцёмавіч адказаў:

— Змалку быў летуценнікам, марыў пабываць у розных краінах. Вельмі любіў прыгодніцкія творы і быў самым адданым чытачом бібліятэкі ў роднай вёсцы Баранцы.

Задума рамана «Пах мускусу» нарадзілася ў А. Брытуна не так даўно. Апошнія гады свайго жыцця ў сына жыла маці і шмат расказвала пра дзеда і прадзеда, якія былі стражнікамі ў Белавежскай пушчы. У 1915 годзе іх выселілі адтуль кайзераўскія салдаты.

— Слухаючы маці, я не адзін раз думаў, — зазначыў творца, — што ёсць Аляска, пра якую Джэк Лондан напісаў дзясяткі кніг; ёсць прэрыі і раманы Фенімора Купера, ёсць фільмы і кнігі пра Шэрвудскі лес, дзе жыў Робін Гуд, а пра Белавежскую пушчу — самы прыгожы і запаветны лес у Еўропе — няма ніводнай прыгодніцкай кнігі. І стаў фантазіраваць...

Беручы ў рукі кнігу А. Брытуна, імкнуся знайсці, дзе аўтар адступіў ад гістарычнай праўды. Не знайшоў.

Сёння нямала наракання на тое, што няма тэкстаў для экранізацыі. Мы памятаем: «Дзяўчынка шукае бацьку», «Палескія рабінзоны», «Горад майстроў» і іншыя фільмы для дзяцей былі зняты на кінастудыі «Беларусьфільм». Чаму б нашым рэжысёрам не стварыць прыгодніцкую стужку для падлеткаў паводле рамана «Пах мускусу»?

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

# Берагі ў абдымках хваляў

**Выстаўка заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Івана Сталярова праходзіць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя, якая атрымала назву «Настаўнік і вучні» зняшчае больш як 20 акварэльных карцін мастака і 24 творы яго выхаванцаў.**



*Іван Сталяроў «Карасёвае месца», 2003 г.*

Галоўны акцэнт у творчасці Івана Сталярова — на пейзажах — рамантычных, узнёслых, прасякнутых любоўю да роднага яму Віцебскага краю, азёр і лугоў. Почырк аўтара лірычны, з мяккім спалучэннем пяшчотных прыродных колераў і адценняў. Ключавое месца ў экспазіцыі займае трыпціх «Лепельшчына — азёрны і партызанскі край».

Куратар выстаўкі, мастак і вучань Івана Міхайлавіча Нікалай Мішчанка адзначыў, што «настаўнік не пісаў буйных форм, але маштабнасць яго прац відавочная: дзякуючы зместу, а не памерам».

«Акварэль — камерны напрамак жывапісу. Яна падкупае багатай колькасцю прыёмаў і пры гэтым простасцю матэрыялу. Мастаку, па сутнасці, патрэбныя толькі невялікі набор фарбаў, звычайная папера, пэндзлі і вада», — падзяліўся Мікалай Мішчанка.

Ён добра памятае сустрэчы з Іванам Міхайлавічам падчас вучобы на Віцебскім мастацка-графічным факультэце, час, калі настаўнік гасцінна сустракаў сваіх выхаванцаў майстэрні і адкрываў ім таямніцы акварэльнага «чарадзейства».

Сёння Івану Сталярову 92 гады. Мастак, на жаль не змог наведаць экспазіцыю, у якой змясціліся яго работы як з яго ўласнага архіва, так і з музейнага фонду.

«На выстаўцы можна пабачыць карціны самага рознага перыяду — і пачатку 2000-х гадоў, і зусім раннія. Усе яны аб'яднаны вялікай увагай да адлюстраванага, беражлівым стаўленнем да матэрыялу мастацкай працы», — падкрэсліў Мікалай Мішчанка.

Кожная карціна Івана Сталярова, сапраўды, можа натхніць на стварэнне лірычных вершаў ці пранікнёных музычных кампазіцый. Беларуская прырода быццам ажывае: дрэвы засынаюць у туманнай дымцы ці, наадварот, абуджаюцца ў ранішніх промнях, рачная вада абдымае бераг, а бліжэй да лініі гарызонту ў маленькай хатцы рыбака цёплым святлом гараць вокны, ствараючы надзвычай утульную атмасферу.

Іван Сталяроў — знакавая фігура ў мастацтве, чалавек, які валодае фундаментальнымі ведамі як у галіне колеразнаўства, так і ў гісторыі, тэхніцы акварэльнага жывапісу, якую ён давёў да сапраўднай дасканаласці. Мастак стварыў спецыяльныя вучэбныя праграмы і дапаможнікі, дзе сістэматызаваў методыку працы акварэльнымі фарбамі. Ён стаяў ля вытокаў віцебскай школы акварэлі, доўгі час выкладаў у Віцебскім дзяржаўным педагагічным інстытуце.

У творчай скарбонцы Івана Сталярова ёсць і серыя «Па слядах партызанскай славы» (1960-я гг.). Іван Міхайлавіч перажыў жахі ваеннага часу, ваяваў у партызанскай брыгадзе пад камандаваннем Міная Шмырова. З войскамі дзеючай арміі 1-га Прыбалтыйскага фронту вызваляў родную Віцебшчыну, а таксама Латвію, Літву, Польшчу.

Шмат пейзажаў Івана Міхайлавіча адносіцца да гарадскіх, дзе, напрыклад, адлюстраваны новабудоўлі на той час яшчэ савецкай дзяржавы, у тым ліку вапнавы завод «Руба». Дзякуючы мальберту аўтара створаны непаўторныя вобразы Віцебска, Полацка, Браслава, а таксама краявіды Латвіі, Літвы ды іншых замежных краін. Асабліва ўражваюць пейзажы Арменіі: «Дарога на Туманец» ці «Мармашэльскі манастыр». Архітэктура ў іх выглядае больш масіўнай, чым у іншых працах, але затое кантрастуе з мяккімі лініямі зямлі, даляглядy, зялёных масіваў.

У мастака больш як 100 выхаванцаў, якія з'яўляюцца членамі Беларускага саюза мастакоў. У творах вучняў Івана Сталярова, прадстаўленых на выстаўцы, прасочваюцца як уласныя рысы аўтараў, так і лепшыя вынаходствы настаўніка. Саюз зямлі і вады ў выглядзе кветак побач з празрыстай гладдзю ўвасабляецца на палотнах Аляксандра Алонцава. Вуліцы старога Віцебска з казачнымі вохрава-чырвонымі дамамі і вялізным дрэвам, якое быццам бярэ ў палон прастору, паўстаюць на адной з карцін Фелікса Гумена. Аляксандр Шыёнак апявае наваколле Браслаўшчыны, зноў жа возера — Дрывяты, а Антон Ясюкайць адлюстроўвае прыгажосць вечара ў Прыдняпроўі. Акрамя пейзажаў і нацюрмортаў, сустракаюцца партрэты, у тым ліку групавыя, напрыклад, метрабудаўцоў Уладзіміра Рынкевіча.

Сярод іншых таленавітых паслядоўнікаў майстра — Мікалай Аўчыннікаў, Аляксандр Карпан, Фёдар Кісялёў, Аляксандр Малей, Мікалай Мішчанка, Уладзімір Напрэенка, Міхаіл Свістуноў ды іншыя.

Творы Івана Сталярова захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Віцебскім абласным краязнаўчым музеі.

**Марыя ВОЙЦІК**



*Іван Сталяроў «Мястэчка Гаране», 1993 г.*

# Шрам на сэрцы — рэалізм на палатне

**Захаванне памяці пра Вялікую Айчынную вайну — мэта выстаўкі, якая адкрылася ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага.**

Прадстаўлена больш як 70 твораў выяўленчага мастацтва ў жанрах партрэта, пейзажа, нацюрморта. Кожная работа — індывідуальнае бачанне вайны кожнага мастака, аднак усе карціны аб'яднаныя рэалістычным накірункам. Тут вы не пабачыце нічога на мяжы фантастыкі — усё проста, дакладна, лаканічна.

На хвіліну прыпыняешся каля кожнага твора. За простым пейзажам — боль, неспакой, трывога. Гледзячы на карціны Уладзіміра Уродніча «Вогненнае Дняпро» і Барыса Пярвунскіх «Акоп у снезе», мы бачым зацішша перад бурай. Спакойныя, цёплыя фарбы.

Уражваюць партрэты. Кожная зморшчынка, кожная эмоцыя ўдала зафіксавана рукой мастака. Шмат увагі — паказу жанчыны на вайне. Ваяўнічая і рашучая, ціхая і малітоўная — кожны творца прапанаваў уласную варыяцыю вобраза. Да прыкладу, жанчыны ў Міхаіла Меранкова моляцца за сваіх сыноў, за ўсю Беларусь, за перамогу, таму і карціна атрымала сімвалічную назву — «Алтар перамогі».

Сярод дзясяткаў палоцен вылучаецца карціна Юрыя Крупянкова «Партрэт М. А. Савіцкага». Прайшло пяць гадоў, як Міхаіл Андрэевіч пакінуў гэты свет, таму знакава, што выстаўка, прымеркаваная да 70-годдзя Вялікай Перамогі, прайшла менавіта ў галерэі мастака, чыя творчасць пранізаная болем вайны.

Напярэдадні адкрыцця выстаўкі Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь быў праведзены конкурс, прымеркаваны да 70-годдзя Вялікай Перамогі. Работы яго пераможцаў таксама прадстаўленыя на выстаўцы. Два лаўрэаты — Антон Вырва і Аляксандр Асядоўскі — былі прыняты ў Студыю ваенных мастакоў «Рубцы памяці».

Адкрыццё выстаўкі — знакавая падзея ў культурным жыцці горада. Гэта шматразова падкрэслівалі арганізатары і госці вернісажу: загадчык упраўлення культуры Мінгарвыканкама Віталіна Рудзікава, старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, начальнік упраўлення інфармацыі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, палкоўнік Уладзімір Макараў, кіраўнік творчага аб'яднання «Традыцыя», заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Уродніч, старшыня Студыі ваенных мастакоў «Рубцы нашай памяці», заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Мікалай Апіёк.

Сярод удзельнікаў выстаўкі — народныя мастакі Беларусі Май Данцыг, Георгій Паплаўскі, Іван Міско, заслужаныя дзеячы мастацтваў Беларусі Уладзімір Церабун, Леанід Дударэнка, жывапісцы Віктар Барабанцаў, Генадзь Лойка, Леанід Гоманаў, Мікалай Мішчанка ды іншыя.

**Надзея ТАЧЫЦКАЯ**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк 23.07.2015 у 11.00
Ум. друк.11 арк. 3,72
Наклад — 2029.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1481 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12